100 выдатных дзеячаў беларускай культуры

Анатоль АСТАПЕНКА

# МІКОЛА ЕРМАЛОВІЧ

## Той, хто вярнуў нам гісторыю

Мінск
Харвест

*Серыя заснавана ў 2012 годзе*
*Заснавальнік, каардынатар і рэдактар серыі А. Я. Тарас*
*Мастацкае афармленне серыі Б. Г. Клюйка*

**Астапенка А.**

Мікола Ермаловіч: Той, хто вярнуў нам гісторыю / Анатоль Астапенка. — Мінск : «Харвест», 2015. — 64 с. : малюнкі. — (Серыя «100 выдатных дзеячаў беларускай культуры»)

ISBN 978-985-18-3550-4

Мікола Ермаловіч (1921—2000) адкрыў нам вочы на сапраўдную гісторыю Беларусі. Ён адкінуў ілжывы тэзіс расейскіх і летувіскіх гісторыкаў пра заваяванне жамойтамі беларускіх зямель у XIII ст. і даказаў, што беларусы — аславяненыя балты, а не збалтызаваныя славяне. Пасля Ермаловіча наша гісторыяграфія зрабілася прынцыпова іншай чым яна была раней.

**ISBN 978-985-18-3550-4**

## Ад рэдактара

Доктар гістарычных навук з Гародні Алесь Краўцэвіч сваю рэцэнзію «Тарас і Парнас», якая з'явілася ў Інтэрнэце 24 красавіка 2014 года, скончыў наступнымі словамі: «Абудзіўшы ў суайчыннікаў цікавасць да сваёй гісторыі, стварыўшы попыт, мы /гісторыкі/ яго не задавальняем».

Гэтая тэза — суцэльная хлусня. Не прафесійныя гісторыкі абудзілі ў беларускім грамадстве цікавасць да сваёй гісторыі. «Абуджэнне» — цалкам заслуга аднаго чалавека, імя якога — Мікола Ермаловіч! У сумныя часы «периода расцвета эпохи застоя», калі прафесійныя гісторыкі старанна пісалі казкі пра дасягненні савецкага сацыялістычнага ладу на Беларусі і змаганне беларусаў за камунізм, менавіта Ермаловіч распаўсюджваў праз «самвыдат» свае знакамітыя творы. Людзі старэйшага пакалення яшчэ памятаюць, як перадавалі іх адзін другому ў выглядзе машынапісных копій або фотак.

А вось «такія, як Краўцэвіч», у тыя ж самыя часы ўпарта рабілі сваю акадэмічную кар'еру. Яны баяліся хоць адзіным словам сказаць хоць нешта, што магло пярэчыць афіцыйнай гістарыяграфіі. Каб зразумець, што маецца на ўвазе, дастаткова пазнаёміцца з аўтарэфератам кандыдацкай дысертацыі таго ж Краўцэвіча («Города и замки Белорусского Понеманья XIV—XVII веков. Планировка, культурный слой»), якую ён абараніў у 1988 годзе ў Маскве.

Або пачытаць кнігі прафесара Леаніда Лыча: «Ведущая сила: Рабочий класс Белоруссии на этапе развитого социализма» (1980 г.), «Аграрный отряд рабочего класса Белоруссии» (1984 г.), «Сотрудничество созидателей: БССР в социально-экономическом сотрудничестве народов СССР» (1987 г.). Менавіта за гэтыя «агіткі»

спадар Л. М. Лыч атрымаў навуковую ступень доктара гістарычных навук.

Для людзей, «падобных Краўцэвічу», галоўнае ва ўсе часы — добра ўладкавацца. Таму няма нічога дзіўнага, што калі яны аднойчы паднялі свае галовы, дык пачалі паліваць брудам... Ермаловіча. Маўляў, ягоныя даследаванні — ненавуковыя! Хто думае, што я хлушу, хай знойдзе ў сеціве і прачытае тэкст Краўцэвіча «Па слядах Міколы Ермаловіча». Гэта яго пагромная рэцэнзія на абагульняючую кнігу спадара Міколы «Беларуская дзяржава Вялікае Княства Літоўскае».

Мала таго! Цяпер яны хочуць прысвоіць яшчэ і заслугі Ермаловіча! Маўляў, гэта мы «абудзілі» цікавасць да айчыннай гісторыі». Хлусня! Да 1992 года ўсе яны хаваліся пад шафай як тыя мышы. Пісалі і друкавалі толькі тое, што «навукова» і бяспечна. Напрыклад, які звычайны чалавек (не гісторык) будзе чытаць пра тую ж «планіроўку і культурны слой» гарадоў Панямоння?!

Сёння «такія, як Краўцэвіч», старанна служаць тым, кто дае ім нейкія грошы. Канкрэтна — хто летувісам, хто палякам, хто расейцам. І зноў льюць бруд на іншых. Такі вось у гэтай часткі нашай інтэлігенцыі «modus vivendi».

Таму вельмі добра, што Анатоль Астапенка (дарэчы, ён таксама не ўваходзіць у кагорту «прафесійных гісторыкаў») напісаў кніжачку, прысвечаную жыццю і творчасці Міколы Ермаловіча. Трэба, каб народ ведаў сваіх сапраўдных герояў!

*А. Тарас*

# Уступ

Калі я перайшоў у восьмы клас, то даведаўся, што мы будзем вывучаць прадмет пад назвай «Гісторыя БССР». Я вельмі ўзрадаваўся, бо дагэтуль у нас была толькі сусветная гісторыя, ды расейска-савецкая гісторыя рускіх цароў. А беларускай гісторыі не было.

Але ран а я радаваўся. Калі пачалося вывучэнне гэтага прадмета, то мая эйфарыя не толькі выветрылася, але і прыйшла ў свой антыпод — у жах! Аказваецца, увесь наш беларускі народ — усе 10 млн чалавек, што я добра ведаў з курсу геаграфіі — быў яшчэ ў незапамятныя часы заваяваны магутным і баявым народам — літоўцамі, нягледзячы, што іх нават цяпер усяго 3 млн, а раней і паловы мільёна не было. Мала таго — з той пары хадзілі мае продкі то пад уладай літоўцаў, то палякаў — і толькі магутны старэйшы рускі брат здолеў вярнуць нас да нармальнага жыцця і выратаваў нас ад немінучай пагібелі як асобнага народа.

Каб неяк акрыяць ад такіх сумных вестак і выкінуць з галавы не менш сумныя думкі пра сваю ганебную нацыянальнасць «беларус», я падаўся з галавой у такія абстрактныя навукі, як матэматыка і фізіка, дзе і атрымаў дыплом кандыдата фізіка-матэматычных навук, абараніўшы дысертацыю ў галіне фізікі элементарных часцінак — навукі таямнічай, а ў тыя часы яшчэ і рамантычнай, апетай Уладзімірам Высоцкім і іншымі бардамі накшталт Гарадніцкага. Было, зразумела, неверагодна цяжка прадзірацца праз тыя церні да зорак, але сэрца заўсёды грэла думка, што ісціна побач. І гэта так і было. Былі адкрытыя спачатку ачараваныя часцінкі, потым фізікі пераканаліся ў існаванні зусім фантастычных, фундаментальных часцінак — трох кваркаў, з якіх складаюцца ўсе астатнія часцінкі, а значыць і ўвесь свет...

Аднак засталося пытанне. Хто я: беларус ці нейкі заходні рускі? А мо мы, беларусы, жыхары правінцыі Польшчы, так званых «крэсаў усходніх»? Няўжо сапраўды мае продкі былі толькі прыгоннымі сялянамі літоўскіх феадалаў альбо польскіх паноў?

Хто — я?

Вось што пішацца ў падручніку майго школьнага навучання «История БССР. Минск. 1961. Под ред. Л. С. Абецедарского»:

> ...Древнерусские государства были очень ослаблены борьбой с татаро-монгольскими завоевателями, немецкими и шведскими захватчиками. Это использовали литовские князья. На протяжении XIII—XIV веков они подчинили своей власти западные (*сучаснай Беларусі — А. А.*) и юго-западные (*сучаснай Украіны — А. А.*) земли Руси (с. 30).

Гэты ўрывак — аснова канцэпцыі гістарыяграфіі Абэцэдарскага, што зневажала годнасць і гонар майго народа — беларусаў — і мой асабісты гонар. Цяпер, чытаючы той тэкст, я лёгка бачу алагічнасць і штучнасць той ілжэгісторыі. Ну паглядзіце самі. Тут сцвярджаецца, што на працягу 200 год наша краіна была аслабленая вайной з рознымі захопнікамі. Але чамусьці тыя захопнікі не чапалі літоўскіх князёў. Што за прывілегія? А гэтыя адгадаваныя, тлустыя літоўцы падпарадкоўваюць пад сваю ўладу агромністую тэрыторыю сучаснай Беларусі і Украіны. І вось дзіцячы розум вучняў савецкай Беларусі малюе вобраз магутных літоўцаў і побач занядбаных, нягеглых беларусаў... І далей:

> Местные феодалы, чтобы сохранить свои владения, были вынуждены подчиниться литовским князьям.

Па самай элементарнай логіцы гэтым мясцовым феадалам, каб захаваць свае ўладанні, трэба было зрабіць

якраз адваротнае — не падпарадкавацца іншай уладзе. Інакш жа адбяруць. Атрымліваецца патрыятычнае выхаванне наадварот. Вакол магутныя літоўцы, некалькі соцен гадоў (г. зн. некалькі дзясяткаў пакаленняў) пануюць над занядбанымі беларусамі, якія толькі і могуць быць «панамі сахі і касы»...

Але Госпад быў літасцівы да мяне і пастуцова разам з падарожжам у неабсяжныя прасторы ядравай фізікі і агульнай тэорыі адноснасці прыйшлі цалкам новыя веды пра беларускую гісторыю. Паступова праўдзівая гісторыя майго народа стала ўсё больш і больш вымалёўвацца ўва ўсёй яе трагічнай прыгажосці, гераізме дзеючых асоб, геніяльнасці яе асветнікаў і вучоных.

Дапамагла вучоба ў аспірантуры Інстытута фізікі Акадэміі навук БССР. За часы навучання ў аспірантуры — у 70-х гадах XX ст. — я пазнаёміўся у бібліятэцы Акадэміі навук з многімі цікавымі людзьмі — гісторыкамі, філолагамі, філосафамі, дый проста беларусазнаўцамі, якія адкрылі для мяне многія старонкі нашай гісторыі, скіравалі мае пошукі «сваёй гісторыі» ў патрэбнае рэчышча. Гэта былі выдатныя людзі: мастацтвазнаўца Генадзь Сакалоў-Кубай (1942—1998), мастак Яўген Кулік (1937—2002), акцёр Алесь Лабанок (1944—2005), будучы лідар БНФ Зянон Пазняк (1944 г. н.), гісторык Алесь Міткавец...

Менавіта апошні аднойчы цёплым майскім раннем паказаў мне ў беларускай зале «Ленінкі» — так звалася Дзяржаўная бібліятэка БССР імя У. І. Леніна — вельмі неардынарнага для савецкіх часоў чалавека, які паклаў пачатак сапраўднай беларускай гісторыі, а асабіста для мяне стаў прыкладам безахвярнага служэння навуцы і вызначыў платформу майго светапогляду на будучыню.

Адбылося гэта так. Мы сядзелі ў згаданай зале і разбіралі стопку новых заказаных кніг з кнігасховішча. Недзе праз гадзіну працы Алесь адарваўся ад кніг, агледзеў зал і раптам спахапіўся:

— Анатоль, я табе зараз пакажу незвычайнага чалавека... Паглядзі вось туды...

І ён накіраваў мой позірк да століка, заваленага кнігамі і рукапісамі так грунтоўна, што, здавалася, там, акрамя гэтай папяровай гары, і няма нікога. Але чалавек быў. Гэта рабілася бачным, калі не мітусіцца па зале вачыма, а прыгледзецца больш уважліва да таго незвычайнага стала. Тады можна было ўбачыць чалавека, які схіліўся да століка і неадрыўна вадзіў позіркам па радках нейкага рукапісу. Незвычайнасць гэтага чытача кідалася адразу — адлегласць паміж вачыма чалавека і праглядаемай ім старонкі была такой малой, што ён амаль зліваўся з ёй. А калі ён усе ж адрываўся ад чытання і падымаў галаву, то можна было ўбачыць твар навукоўца, ягоныя зачэсаныя на бок валасы, як было прынята ў пасляваенных гадах, шэры касцюм з простым, але тактоўным гальштукам і, галоўнае — знакамітыя акуляры, якія вылучаліся ад усяго ягонага аблічча сваёй незвычайнасцю, бо нагадвалі дзве лінзы, злучаныя металічнай дужкай і, як высветлілася пазней, гэта было амаль так — шкельцы акуляраў мелі такую вялікую крутасць, што, фактычна, з'яўляліся лінзамі. Адным словам, тыя акуляры мелі надзвычай вялікія дыёптрыі.

Гэта быў, тады яшчэ нікому не вядомы, гісторык Мікола Ермаловіч.

Ён вельмі дрэнна бачыў і быў вымушаны прымаць такую жахліва скручаную позу, каб нешта прачытаць. А чытаў ён шмат. І не толькі гістарычныя кнігі. Ён чытаў, а дакладней працаваў з самымі старажытнымі рукапісамі, летапісамі, дакументамі даўно мінулых гадоў... І плён быў. Плён быў таму, што гэты чалавек працаваў не для здабыцця нейкіх фактаў ці тэкстаў, каб прадставіць начальству чарговую справаздачу ці абараніць дысертацыю для бязбеднага існавання пад савецкім небам нейкай там гістарычнай кафедры. Ён

працаваў для таго, каб адказаць на пытанне, якое яго мучыла ўсё жыццё: «Хто мы — беларусы? Хто былі нашы продкі і ці праўда, што іх заваявалі ваяўнічыя літоўцы і трымалі ў палоне можа трыста гадоў?»

Ён працаваў бескарысліва і сумленна, ён ствараў сапраўдную гісторыю Беларусі. Ён працаваў для сябе. І для мяне. І для ўсіх нас.

Гэта быў цяпер усім вядомы, выдатнейшы гісторык і цудоўны чалавек — Мікола Ермаловіч.

Прайшлі яшчэ гадоў пятнаццаць і я пазнаёміўся з Міколам Ермаловічам непасрэдна і не толькі пазнаёміўся, а пачаў разам з ім удзельнічаць у розных дзеях у той пасіянарны перыяд 90-х гадоў, калі ўсё мянялася, руйнавалася і адраджалася.

Ён зрабіўся маім настаўнікам, а я навекі ўдзячны яму за тое, што ён вярнуў мне *маю* гісторыю беларусаў, вярнуў мне веру ў беларускі народ. Я стаў ведаць, што мы, беларусы, не нейкі там пакорлівы, маўклівы народзец без мінулага і будучыні, а цалкам самастойная магутная еўрапейская нацыя з вялікай гісторыяй, выдатнымі героямі, цудоўнымі пісьменнікамі, мастакамі і навукоўцамі.

# Частка I. ШТРЫХІ ДА БІЯГРАФІІ

## Сям'я

Нарадзіўся Мікола Ермаловіч 29 красавіка 1921 года ў вёсцы Малыя Навасёлкі Менскага павета (цяпер Дзяржынскі раён) у вялікай сялянскай працавітай сям'і. Бацька, Іван Іванавіч, працаваў у калгасе конюхам. У 1937 годзе быў рэпрэсіраваны, рэабілітаваны ў 1956 годзе (пасмяротна); маці, Стэфка Юр'еўна, працавала калгасніцай. У яго былі браты Валянцін і Леанід і сястра Марыя.

Спадар Мікола паходзіў хоць і з сялянскай, але з «пародзістай», моцнай сям'і. Гэта бачна з таго, што і яго дзед, і бацька і асабліва браты былі неардзінарнымі людзьмі.

Цікавай постаццю з'яўляўся дзед. У 1914 годзе ён набыў у нашчадкаў капітана Шустава адзін з хутароў Малыя Навасёлкі (у народзе часам называюць Шустаўка). Яшчэ раней гэтыя землі належалі панам Кастравіцкім. З гэтага роду выйшлі вядомыя паэты — беларускі Карусь Каганец (К. К. Кастравіцкі) і французскі Гіём Апалінэр (сапраўднае Гіём Альбер Уладзімір Аляксандр Апалінарый Кастравіцкі). За актыўны ўдзел у паўстанні 1863—1864 гадоў абодва браты былі сасланы ў Сібір, маёнтак секвестраваны (забарона карыстацца маёмасцю, якую накладваюць органы ўлады) у царскую казну, потым падораны капітану Шуставу. У 1930 годзе тут, на «шустаўскіх» землях, быў арганізаваны калгас «Победа».

Брат Міколы, Леанід Іванавіч, нарадзіўся 27 ліпеня 1923 года. Таксама ў вёсцы Малыя Навасёлкі. Перад вайною закончыў Дзяржынскую беларускую СШ. Са жніўня 1941 года быў членам Навасёлкаўскай патрыятычнай групы Дзяржынскага патрыятычнага падполля, выконваў адказныя даручэнні. У лістападзе 1942 года пайшоў у партызанскі атрад «Бальшавік» брыгады імя І. В. Сталіна Баранавіцкай вобласці. Пасля вайны ён стварыў гісторыка-краязнаўчы музей у Навасёлкаўскай школе. Быў узнагароджаны ордэнам Чырвонай Зоркі, медалём «Партызану Айчыннай вайны» І ступені і іншымі. Памёр 24 лістапада 2004 года. Пахаваны на могілках каля вёскі Навасёлкі.

Малодшы брат Валянцін нарадзіўся 17 сакавіка 1925 года. Ён удзельнік Вялікай Айчыннай вайны, вядомы беларускі акцёр, заслужаны работнік культуры БССР (1988). З 1978 года рэжысёр Краснапольскага народнага тэатра Магілёўскай вобласці, працаваў таксама

рэжысёрам іншых тэатральных калектываў Беларусі. Узнагароджаны двума ордэнамі Айчыннай вайны II ступені, 9 медалямі, Граматай Вярхоўнага Савета БССР (1978). Лаўрэат прэміі Ленінскага камсамола Беларусі (1986), лаўрэат Усесаюзных фестываляў самадзейнай мастацкай творчасці (1988, 1991). Ён пакінуў значны след у сцэнічным мастацтве, у прапагандзе са сцэны беларускай мовы, беларускіх пісьменнікаў і іх твораў.

Сам Валянцін Іванавіч падкрэсліваў: усе ягоныя поспехі — гэта заслуга брата Міколы. Усё пачалося ад неўтаймаванасці і няўрымслівасці старэйшага брата:

> Ён у нас выкладаў гісторыю ў Дзяржынскай беларускай СШ. Брат братам, а мне ён ставіў тройку па гісторыі: не мог ён дараваць ні мне ні каму іншаму няўвагі да нашай далёкай мінуўшчыны, імкнуўся, каб кожнага гісторыя зацікавіла, запаланіла, каб абудзілася жаданне яе вывучаць, ведаць і весці справу беларускага Адраджэння.

## Дзяцінства Міколы

Як было прынята ў сялянскіх сем'ях, маці часта брала дзіцятку Міколу з сабой на поле, калі жала жыта. Яна клала сына ў цені за пастаўленымі снапамі і займалася сваёй нялёгкай працай. Аднойчы Стэфка не ўгледзела, што снапы ўпалі і сонца пачало паліць маленькаму немаўлятку ў адкрытыя вочкі. Так пад бязлітаснымі сонечнымі промнямі Міколка праляжаў некалькі гадзін і вочы атрымалі жорсткі сонечны апёк, які не прайшоў бясследна. З таго часу ў Міколкі — будучага генія беларускай гісторыі — пачаліся праблемы са зрокам. Стан ягонага зроку пагаршаўся на працягу ўсяго жыцця (у апошнія гады дасягнуў узроўню мінус 28!).

Цікавасць да роднай гісторыі ў Міколкі абудзілася ў 2-м класе літаральна з аднаго сказа школьнага падручніка па беларускай мове: «Полацк — самы старажытны горад Беларусі». Яго, малога, зацікавіла: чаму?

І вось гэта неардынарная цікавасць «чаму? што? калі? дзе?» да роднай гісторыі крочыла поруч з ім праз усё свядомае жыццё.

Яшчэ ў школе праявіліся творчыя здольнасці Міколы. Ён сам піша ў «Аўтабіяграфічных накідах»:

> Творчую працу я пачаў у 1936 г. (у 15 год. — *А. А.*), калі ў друку пачалі з'яўляцца першыя літаратурныя вопыты. Аднак сталую навукова-літаратурную дзейнасць распачаў у 1948 г. даследаваннем творчасці беларускіх пісьменнікаў. Адначасова я зацікавіўся гісторыяй Беларусі.

У 1938 годзе Мікола скончыў Дзяржынскую беларускую СШ і паступіў на філалагічны факультэт (аддзяленне мовы і літаратуры) Мінскага дзяржаўнага педагагічнага інстытута імя А. М. Горкага. Да пачатку Вялікай Айчыннай вайны паспеў скончыць тры курсы інстытута. З-за дрэннага зроку ад вайсковай службы быў вызвалены.

У пачатку вайны эвакуіраваўся і ў 1941—1943 гады працаваў настаўнікам рускай мовы і літаратуры ў вёсцы Лабаскі Мардоўскай АССР. Пра жыццё ў Мардовіі М.Е. піша ў сваіх дзённіках:

> У час ВАВ лёс мяне закінуў у Мардоўскую АССР. У канцы 1941 г. мне ўдалася спісацца з паэтам Міхасём Машарам, з якім я працаваў перад вайной у Шаркаўшчынскім РайАНА. Ён быў супрацоўнікам газеты «Савецкая Беларусь». І ў хуткім часе мне сталі прыходзіць яе нумары.

Любоў да Беларусі, да беларускай мовы перадалася і да ягоных калег у Мардовіі. Хутка беларускамоўную прэсу чытала ўся інтэлігенцыя вёскі Лабаскі, якая да прыезду сюды беларускага патрыёта нават не ведала пра існаванне такой мовы. Мікола піша:

> Хочацца адзначыць, што газету «Савецкая Беларусь» і яе сатырычны дадатак «Раздавім фашысцкую гадзіну»

любілі чытаць мае калегі настаўнікі — мардоўцы і рускія. Адзін з іх, выкладчык фізікі Іван Дзмітравіч Шумілкін — спецыяльна прыходзіў да мяне, каб пачытаць «беларускую газету».

Вось гэтая рыса — любоў да беларушчыны — вызначыла назаўсёды стыль і мэту жыцця Міколы Іванавіча, дзе б і калі ён ні знаходзіўся. І праз усё яго жыццё сіла гэтай любові прыцягвала і зараджала «беларускай» энергіяй многіх і многіх людзей.

## Вяртанне на Радзіму

Напрыканцы 1943 года пачалося вызваленне Беларусі і Мікола Іванавіч вырашыў вярнуцца дахаты. Ён едзе дадому і ледзь не гіне ў таварным цягніку, якімі ў той час карысталіся ўсе падарожныя людзі. На адной з станцый па дарозе ў Маскву юнак выскачыў, каб штонебудзь набыць паесці. Тамбур быў зачынены, і ён палез паміж вагонамі. І калі апынуўся ў спецыфічным месцы, там, дзе вагоны злучае так званы гармонік, цягнік раптоўна рушыў. Хлопец апынуўся ў пастцы, яго сціснула вагонамі і ён апынуўся ў смяротнай небяспецы... Ён «стаў крычаць нямым голасам», думаў, што жыццю прыйшоў канец. М.Е. вельмі яскрава апісвае той выпадак:

> Цікава, што ў маёй свядомасці за гэты кароткі час усплывалі нейкія драбніцы з маленства, таксама прыгаджаліся словы: «Так вот где таилась погибель моя».
>
> ...мне здалося, што я лячу знізу ўверх з нейкае ямы. Я прыйшоў у прытомнасць, але яшчэ некалькі часу не мог зразумець, чаго гэта я ляжу на зямлі і вакол мяне стаіць вялікі натоўп людзей. Потым затрымаліся на станцыі. Прыйшоў урач.

Стан будучага генія беларускай гісторыі быў вельмі цяжкім:

Спытаўся ўрача, ці выжыву, яна супакоіла мяне, але па твары я зразумеў, што яна сама не верыла ў свае словы. А тут яшчэ нейкі ранены сказаў: «Зачем, чтобы человек мучился, дать ему какого порошка, чтобы быстрее умер».

Але, на шчасце, Мікола Іванавіч выжыў. Але калі яго ўжо выпісвалі з Басманскай бальніцы Масквы, ён глянуў у люстэрка і ад перапуду ледзь зноў не лёг. Вочы яго былі страшэнна чырвоныя, як два вугельчыкі. Потым пастуиова колер вярнуўся да нармальнага, але з таго часу зрок пачаў імкліва пагаршацца.

Гэтая рэпетыцыя гвалтоўнай смерці ў той час скончылася жыццём. Але праз шмат год ён усё ж загіне пад коламі іншага транспарту — аўтамабіля.

## Беларусь, мая старонка...

22-гадовы Мікола Іванавіч уладкаваўся на працу ў былым Суражскім раёне Віцебскай вобласці інспектарам райана. У 1946 годзе пераехаў на сваю малую радзіму — у Дзяржынскі раён, у вёску Малыя Навасёлкі. Пасля заканчэння вайны працягваў вучобу ў педінстытуце, які скончыў у 1947 годзе.

Пасля заканчэння педагагічнага інстытута М.Е. параілі паступіць у аспірантуру пры Інстытуце літаратуры АН БССР і прафесійна заняцца навукова-даследчай дзейнасцю. Ён даў згоду і сам прапанаваў тэму кандыдацкай дысертацыі: «Развіццё беларускай літаратурнай мовы ў ХІХ стагоддзі».

Ініцыятыва ў Савецкім Саюзе, як вядома, не толькі не падтрымлівалася, але і магла прывесці да трагічных вынікаў. Тое атрымалася і з Ермаловічам. Тэму «зарэзалі» без ніякіх тлумачэнняў тагачасныя кіраўнікі навукі і прапанавалі яму пісаць дысертацыю больш падыходзячую.... Не, канешне не для навукі, — падыходзячую для будаўніка сталінскага камунізму.

Вось якой была «правільная» тэма: «Вобраз Іосіфа Вісарыёнавіча Сталіна ў беларускай літаратуры і фальклоры». «Каштоўнасць» гэтай тэмы і вобраза «правадыра ўсіх часоў і народаў» Мікалай Іванавіч добра ведаў: яго бацька быў рэпрасаваны, таму не дзіўна, што ён не пайшоў на здзелку са сваім сумленнем і не прыняў «прахадную» прапанову.

Так скончылася для Міколы Іванавіча спроба афіцыйнага шляху ў навуку. У выніку ён апынуўся ў горадзе Маладзечна і тут, у Маладзечанскім настаўніцкім інстытуце на працягу сямі годоў выкладаў беларускую літаратуру. М.Е. жаніўся. Нарадзіліся дзеці: дачка і сын.

Гэтыя счаслівыя пасляваенныя гады ў невялічкім беларускім гарадку.... Тут прайшла яго маладосць, тут ішоў інтэнсіўны пошук свайго шляху ў жыцці, тут сфармаваўся Мікола як асоба. Здаецца яшчэ нічога істотнага не напісана. Але гэта толькі здаецца. Рыхту-



*Мікола Ермаловіч з сям'ёй:*
*жонкай Лідзіяй і дзецьмі дачкой Алёнай і сынам Усеваладам*

еціа платформа, а для яе трэба моцны, здаровы падмурак. Таму ён піша:

> Прычыны, чаму той ці іншы чалавек застанаўліваецца на пэўным пункце і не ідзе далей, многа. Аднак, па-мойму, галоўнай прычынай з'яўляецца абмежаванасць светапогляду чалавека. Ён альбо зусім не мае ніякага ідэала, альбо мае такі, які можна лёгка, а калі і цяжка то скора дасягнуць. Трэба прыйсці да пераканання, што нельга выпрацаваць сталых рэцэптаў на ўсё жыццё, на ўсе выпадкі (З дзённікаў. 4.01.1949 г.)

Ягоны ідэял — незалежная Беларусь, беларуская нацыянальная ідэя і родны народ. Мікола Іванавіч аддасць усё сваё жыццё служэнню гэтаму ідэалу і Радзіма аддзячыць яму. Але гэта будзе пазней, шмат пазней. Аднак у ягоных запісах тых гадоў ужо адчуваецца цвердая вера ў правільнасць абранага шляху і сур'ёзнасць поглядаў:

> Я не крыўджуся на свой час. Наадварот, я ўдзячны лёсу свайму, што мне выпала шчасце жыць у гэты час, калі канчаткова ламаецца векавая цяжба паміж злом і праўдай, у карысць апошняй. Удзячны лёсу, што на плечы мае, як і ... маіх сучаснікаў легла самая цяжкая і высакародная місія на зямлі... (Дзеннікі. 3.02.1949).

Адкуль ён ведаў пра сваю місію?

Ён яе адчуваў. І проста шоў як сабака па следу. Да старта заставалася яшчэ восем год, калі пачнецца новы перяд, які адзначыцца ...выхадам на заўчасную пенсію.

## А вось і пенсія... у 37 год

Пасля закрыцця інстытута і да 1957 года М.Е. працаваў загадчыкам метадычнага кабінета Маладзечанскага інстытута ўдасканалення настаўнікаў. Але зрок працягваў пагаршацца і ў 1957 годзе, у сувязі са значнай стратай зроку, ён выходзіць на пенсію.

Ува ўсякай дрэннай падзеі альбо трагічным выпадку ёсць адваротны бок. Творца нібы кампенсуе сваім ахвярам неабходнасць нясення той цяжкай, часта нават смяротнай ношы. І ў гэтых абраных праяўляюцца здольнасці і магчымасці, недасягальныя звычайным абывацелям і нават разумным, здольным людзям. І яны становяцца прарокамі. Такім быў костнаязыкі Маісей, што вывеў свой народ з Егіпецкага палону. Такім быў інвалід-калясачнік Стывен Хокінг, што стварыў сучасную касмалогію... І такім чалавекам стаў амаль сляпы Мікола Ермаловіч. Менавіта пасля вымушанага сыходу на пенсію пачалося ягонае сапраўднае творчае жыццё.

З гэтага часу (1957 г.) Мікола Іванавіч пачаў даследаваць старажытныя летапісы, аналізаваць працы вядомых гісторыкаў, даводзіць свае ацэнкі гісторыкам — ранейшым і сучасным. Абмежаваны фізічнымі здольнасцямі, М.Е. вывучаў крыніцы самастойна і спачатку ў дыскусіях не ўдзельнічаў. Ён меў мужнасць у сваёй працы выступаць супраць афіцыйнай гістарычнай навукі, закаванай у браню марксісцка-ленінскай дагматыкі і вялікадзяржаўнай расійскай традыцыі.

Тое, што М.Е. не знаходзіўся на працы ў афіцыйных навуковых установах (напрыклад, у Інстытуце гісторыі АН БССР ці ў БДУ), пайшло яму на карысць. Ніхто ўжо не перашкаджаў яму працаваць над вывучэннем беларускай гісторыі, ніхто не забараняў выбіраць тэму даследаванняў ці абмяжоўваць яе вельмі сціплымі рамкамі. Свабода... Яна выклікала свабодны палёт думкі, неабмежаванай рамкамі афіцыёзу, і ўрэшце дазволіла на нейкім жыццёвым этапе сказаць знакамітае архімедаўскае «Эўрыка». Вось як сам гісторык гаворыць пра пачатак сваіх доследаў:

> І калі я пачаў чытаць падручнікі, то ўбачыў, што іх аўтары ішлі ад Стрыйкоўскага, перапісваючы адзін у аднаго. Прыйшлося звярнуцца да першакрыніц, прынамсі, да Іпацьеўскага летапісу. І стала ўсё зразумелым. Па-

першае, я даведаўся, што сучасная Літва і старажытная Літва — гэта зусім іншыя тэрыторыі. Старажытная Літва знаходзілася на тэрыторыі Беларусі. Яна была не на паўночны захад ад Навагрудка, а на ўсход ад яго.

Ён пачаў апантана і дэталёва вывучаць летапісы, хронікі, акты, разнастайныя дакументальныя крыніцы. Чым больш «капаў», тым больш здзіўляўся — усё новае,



*Вось так ён і працаваў*

цікавае, невядомае, нідзе, ніколі і нікім не было выкарыстана. Прыйшоў час, і Ермаловіч нават аж жахнуўся: «чаму ж гэта не было выкарыстана — можа чыталі, ды не заўважылі, ці мо не хацелі заўважыць»...

Вось сведчанне Іпацьеўскага летапісу пад 1251 годам: «Міндовг вражбою бе за ворожьство Литву зане». Як бачна, не Навагрудак і іншыя блізкія тут гарады заваяваў, а Літву.

Дзіўна вось што. Ніхто да Мікалая Іванавіча не цытаваў гэтага яскравага ўрыўка, дзе летапісец сведчыць: Міндоўг заваяваў Літву, але не наадварот! І ніякія літоўцы нас не заваёўвалі, наадварот, Навагарадок на чале з Міндоўгам падпарадкаваў бліжнія землі, у тым ліку Літву. Ды і не магло быць інакш. Надта нізкі ўзровень як культурнага, так і эканоміка-сацыяльнага парадку мела тое балцкае племя — жмудзь, што пазней атрымала назву літоўцы, каб усур'ёз дыктаваць сваю палітыку суседзям.

Але гэтае адкрыццё прыйдзе да Ермаловіча пастуова, а да шырокага прызнання гістарычнай праўды пройдуць яшчэ дзесяцігоддзі...

## Частка II.
## ПОШУКІ СВАЙГО ШЛЯХУ.
## НЕПРЫЗНАННЕ

### Per aspere ad astra

Пенсія, хоць і невялікая, дала магчымасць Міколу Іванавічу прысвяціць сябе цалкам любімай справе. Гэтай справай была, найперш, творчасць — літаратурная і навукова-даследчая ў галіне гісторыі.

Яго творчая натура шукала шляхі рэалізацыі шматлікіх творчых задумак. Трэба сказаць, што ён упершыню паспрабаваў сябе ў літаратуры яшчэ падлеткам. Дэбютаваў 2 чэрвеня 1936 года вершам, прыс-

вечаным смерці Максіма Горкага ў раённай газеце «Ударнік Дзяржыншчыны». З 1948 года друкаваў вершы і літаратурна-крытычныя творы ў маладзечанскай абласной газеце «Сталінскі шлях», у альманаху «Нарач», газетах «Звязда», «Літаратура і мастацтва», «Голас Радзімы», часопісах «Полымя», «Нёман», «Маладосць».

З выхадам на пенсію магчымасці да заняткаў творчасцю значна павялічыліся. У Міколы з'явілася шмат вольнага часу, на працу не трэба было хадзіць, хоць ён усё ж уладкаваўся на няхітрую падпрацоўку праз таварыства людзей, маючых праблемы са зрокам. Дыяпазон творчых пошукаў у тыя гады здзіўляе сваім размахам. Ён піша апавяданні, спрабуе сябе ў драматургіі, піша гістарычныя нарысы.

У 1959—1960 гадах Ермаловіч піша п'есу «Праўда і хлеб». Тэкст займаў 89 старонак машынапісу, па жанру гэта драма ў трох дзеях. П'еса адпавядала патрабаванням твора, прыдатнага да пастаноўкі на сцэне беларускіх тэатраў, і М.Е. паслаў працу галоўнаму рэжысёру Бабруйскага тэатра А. С. Аркадзьеву. Але апошні даў адмоўную рэцэнзію, прапанаваўшы скараціць, дапрацаваць і надрукаваць у часопісе. Гэта цалкам зразумела. У тыя часы выхад «напрамую» да рэжысёра тэатра аўтара, не маючага свайго імя альбо пэўных сувязей — было марным заняткам.

Урэшце ён знаходзіць сваю нішу, робіць сваё архімедаўскае адкрыццё, якое распачынаецца з напісання артыкула «Дзе была летапісная Літва?» у 1968 годзе. Але акрамя невялічкіх тэзісаў у зборніку матэрыялаў акадэмічнай канферэнцыі, на многія гады яго чакае непрызнанне. Яго творы не прымаюцца да друку, афіцыйныя гісторыкі не ўспрымаюць ягоных ідэй і гэта працягваецца дзесяцігоддзямі (да 1989 года).

Мікола зайздросна мэтавая натура, ён не можа чакаць прыходу тых часоў, калі знікне дзяржаўная цэнзура, калі настане свабода друку і думак. Гэты час прый-

дзе. А пакуль... А пакуль Мікола вырашае напісаць гістарычнае даследаванне, якое б задаволіла афіцыйную гістарычную навуку — даследаваць гісторыю КПСС і рэвалюцыйнага руху на Беларусі. І бярэцца не за нейкія там праблемы калектывізацыі ці індустрыялізацыі БССР. Ён ідзе адразу да вышынь. У 1970 годзе піша грунтоўную працу пад «прасавецкай» красамоўнай назвай «Пад іх сцягам ідзе Беларусь». На 113 старонках машынапіснага тэксту вывучаецца той немалы — як паказана Ермаловічам — унёсак у гісторыю Беларусі, які зроблены класікамі марксізма-ленінізма — Карлам Марксам, Фрыдрыхам Энгельсам і Уладзімірам Леніным.

Праца складаецца з дзвюх частак. У першай «Яны бачылі і нашу Беларусь» вывучаецца дзейнасць К. Маркса і Ф. Энгельса ў дачыненні да беларускіх праблем, а ў другой «Ленін і Беларусь» — даследуецца ленінскі след на Беларусі.

Але і гэтую працу «зарэзалі». Ужо тое, што яна рабілася не ў акадэмічным інстытуце па квартальнаму плану альбо на катэдры ўніверсітэта па «гадавой тэме», а нейкім беспрацоўным інвалідам, аўтаматычна выключала нават магчымасць выступіць з яе тэзісамі, не тое каб надрукаваць. Рэцэнзент пісаў: «Очень много непродуманных переходов и выводов, не связанных с (...) историей КПСС». І шчыра адмовіў Мікалаю Іванавічу: «Нужна ли такая работа, акцентированная только на Белоруссию?»

Цяжка сказаць, ці адчуваў сябе ў тыя гады спадар Мікола рэалізаваным як творчая натура. Бо далёка не ўсе творы здолелі пабачыць свет у тыя «празрыстыя» гады, асвечаныя пільным ліхтарыкам Камітэта дзяржаўнай бяспекі. Асабліва цяжка было данесці людзям што-кольвек пра мінулае Беларусі, якое праглядвалася па-за кадрам афіцыёзнай навукі, а менавіта гэтая тэма больш за ўсё вабіла Міколу.

## Перыяд самвыдата

Мікола Іванавіч знайшоў выхад. Ён адрадзіў старажытную форму беларускага пісьменства — самвыдат. Нелегальны ці пазацэнзурны друк у Беларусі — з'ява цікавая і да нашага часу яшчэ мала даследаваная. Што друкавалі ў тым своеасаблівым жанры? У першую чаргу тое, чаго не хапала савецкаму беларусу — тэксты нацыянальна-дэмакратычнага кірунку. Тыя творы змяшчалі інфармацыю, альтэрнатыўную афіцыйнай, выходзілі і распаўсюджваліся без пільнага кантролю Галоўліта — савецкай цэнзуры.

Яшчэ ў 1963—1964 гадах М.Е. выпускаў рукапісны самвыдацкі часопіс «Падснежнік», усяго выйшлі чатыры нумары. Выхад «Падснежніка» спыніўся пасля зняцця з пасады Першага сакратара ЦК КПСС М. С. Хрушчова на пленуме ЦК КПСС у кастрычніку 1964 года.

Аднак змена партыйнага кіраўніцтва ў Савецкім Саюзе не магла змяніць становішча са свабодай слова ў краіне. Яго па-ранейшаму не было. Наадварот, пачаўся доўгі перыяд брэжнеўскай стагнацыі. Адсутнасць свабоды стала «нормай» — людзі проста не маглі ўявіць іншую магчымасць свайго жыцця.

Акрамя Міколы Ермаловіча. Праз дзесяць год ён вяртаецца да самвыдату. На гэты раз надоўга. Новы праект назваўся «Гутаркі».

*На ваш папрок, што шмат нам далі,*
*Скажу я вам такія словы:*
*Вы ДАСТАЕЎСКАГА ў нас узялі,*
*Узамен нам даўшы мураўёва...*

*Наш ДАСТАЕЎСКІ крыж няволі*
*За вашу волю нёс бясстрашна,*
*Ён азарыў з сардэчным болем*
*Пацёмкі вашых душ няшчасных.*

*М. Ермаловіч. «Водпаведзь»*

«Гутаркі» сталі працягам рукапіснага «Падснежніка». Гэта вельмі цікавы і самабытны праект сапраўднай народнай газеты, які Мікола Іванавіч самаахвярна ажыццяўляў у самыя застойныя часы. Тэксты друкаваліся на машынцы, потым гэтыя лісткі распаўсюджваліся па знаёмым, знаёмым тых знаёмых... і гэтак далей.

Назву «Гутаркі» аўтар выбраў пад увагаю таго, што яшчэ ў XIX ст. гутаркі былі найбольш распаўсюджаным жанрам нелегальнага друку. У выданні змяшчаліся творы, якія афіцыйны друк не змяшчаў з-за грамадзянскае, сацыяльнае і палітычнае накіраванасці. Аўтар рыхтаваў матэрыялы ў Мінску (у дзяржаўнай бібліятэцы), друкаваў у Маладзечна на машынцы, а потым перадаваў вядомаму адраджэнцу мастаку Яўгену Куліку для памнажэння. Нумар выходзіў прыкладна раз на тыдзень. Усяго выйшла больш за 50 «Гутарак», але частка з іх страчана (усяго вядома 46). Змяшчаліся матэрыялы рознага жанру, прасякнутыя ідэяй незалежнасці, нацыянальнага абуджэння Беларусі.

Фармат паперы «Гутарак» — А4, надрукаваныя на пішучай машынцы на адным баку аркуша праз два інтэрвалы, аб'ём аднаго нумара ад 1 да 5 старонак. Каптур выдання змяшчаўся ўверсе першай старонкі, колькасць і размяшчэнне элементаў каптура крыху змянялася. Уверсе каптура, акрамя асобных нумароў, быў надрукаваны дэвіз *«Аб усім, што баліць»*. Справа эпіграф *«Толькі гутарка ходзіць такая»*, радкі з верша Янкі Купалы напісаны двума радкамі; злева парадкавы нумар і дата выхаду, ніжэй месца выхаду нумара (дзеля канспірацыі Мікола пазначаў Менск).

Ніжэй, пасярэдзіне каптура — назва «Гутаркі», напісаная адным радком вялікімі літарамі, якія падкрэслены ці ўзяты ў рамку і такім чынам аддзелены ад назвы матэрыялу. Змест гутарак разнастайны — вершы і апавяданні, гістарычныя нарысы, матэрыялы, так бы мовіць, «на злобу дня», і што самае небяспечнае для тых

застойных гадоў — тэксты, у якіх ацэньваюцца бягучыя палітычныя падзеі. Аўтар усіх «Гутарак» і ён жа выдавец, рэдактар і карэктар — Мікола Іванавіч Ермаловіч.

«Гутарка аб усім, што баліць» — гэта забытая беларуская традыцыя свабоднага незалежнага слова і незалежнага свабоднага грамадства, а таксама яго самаахвярная ўласная ініцыятыва на Беларусі 60—70-х гадоў XX стагоддзя. Першы нумар датаваны 14 лістапада 1975 года, апошні (53) — 13 лістапада 1976 года.

Трэба сказаць, што беларусы маюць даўні вопыт самвыдатаўскага друку. Згадаем, напрыклад, знакамітую «Мужыцкую праўду» Каліноўскага, якая выходзіла больш за 100 год ад часоў Ермаловіча. Альбо «Энеіду навыварат».

Праўда, пасля ўтварэння БССР беларуская мова і беларуская літаратура набылі афіцыйны статус і ўсе публікацыі беларускіх навукоўцаў і пісьменнікаў, пачынаючы з 20-х гадоў, выходзілі ў свет праз дзяржаўныя друкарні. Але вельмі хутка савецкая дзяржава ўсталявала цэнзуру, якая па сваёй «пільнасці» ў шмат разоў пераўзыходзіла славутую царскую камісію, што ставіла знакамітую пячатку — «Дозволено цензурой». А пасля масавага знішчэння беларускай інтэлігенцыі — вучоных, пісьменнікаў, грамадскіх дзеячаў — занадта мала знаходзілася такіх людзей, якія б мелі смеласць выказваць свае думкі адкрыта і тым больш праз газету, хай сабе і самвыдатаўскую.

Добра вядомы самвыдат расійскі. I добра вядома, чым канчаліся спробы расейскіх ды і іншых савецкіх пісменнікаў, паэтаў і навукоўцаў такой публічнай дзейнасці. У лепшых выпадках іх высылалі па-за межы Саюзу, у горшых — саджалі на розныя турэмныя тэрміны ці — што яшчэ горш — кідалі ў псіхушкі.

«Гутаркі» арыентаваліся на беларускага чытача. У іх змяшчаліся творы рознага жанру, але ўсе яны былі прасякнуты ідэяй незалежнасці, нацыянальнага абуджэн-

ня Беларусі. «Гутаркі» шматразова перадрукоўваліся на пішучай машынцы, перапісваліся пад капіравальную паперу ад рукі, распаўсюджваліся сярод інтэлігенцыі Мінска, Маладзечна, іншых гарадоў Беларусі. «Гутаркі» выдаваліся пад псеўданімам Сымон Беларус, М. Ермолаев, Я. Мікалаеў, М. Ярмалаеў, Мікола Наваселец.

Менавіта тыя нелегальныя выданні 60-х — першай паловы 80-х гадоў у Беларусі рыхтавалі сапраўдны выдавецкі выбух 1988 года.

Па жанрах «Гутаркі» можна разбіць на некалькі груп. Першая група «Гутарак» — вершы і маленькія паэмы: «Ты хочаш жыць для Беларусі», «Гэта пры нас», «Сцяганосцам Айчыны», «Табе патрэбна воля» і іншыя. М.Е. друкаваў свае непадцэнзурныя вершы, прасякнутыя патрыятычнасцю, любоўю да Беларусі і да роднага слова. Акрамя «Гутарак» ён напісаў шмат вершаў, якія найбольш поўна сабраны ў так званым «Сшытку вершаў». Толькі з 90-х гадоў XX стагоддзя беларусы пачалі знаёміцца з гэтым скарбам патрыятычнай паэзіі, якую па значнасці і любові да Беларусі можна параўнаць толькі са спадчынай Янкі Купалы і Ларысы Геніюш.

*Беларусь, ты доўга сніла*
*Сон цяжкі крывавы свой.*
*Час прыйшоў раскоўваць сілы*
*І за волю йсці на бой.*

*Годзе рабскага цярпення,*
*Годзе ўжо астрожных крат,*
*Беларусь! У наступленне!*
*І ні кроку больш назад!*

*Ты прыгнечана найболей,*
*І ўжо грозіць смерць табе.*
*Твой ратунак толькі ў волі*
*І твой шлях у барацьбе!*

*М. Ерамаловіч.*
*«Беларусь! У наступленне!»*



*Мікола Ермаловіч на сустрэчы ў «Беларускай хатцы» ў Маладзечна*

Паэтычную спадчыну Міколы Іванавіча можна згрупаваць наступным чынам: 1) вершы аб Беларусі і заклік змагання за Радзіму; 2) вершы, прысвечаныя змагарам і песнярам Беларусі; 3) вершы, якія адлюстроўваюць душэўны настрой, перажыванні аўтара; 4) сатырычныя творы і творы, у якіх аўтар паказвае негатыўныя бакі савецкага жыцця.

Другая група «Гутарак» — празаічныя творы. Гэта апавяданні: «Зноў цяжар», «Существительное», «Скаргі», «Чужаземец», сатырычныя празаічныя і вершаваныя творы.

«Гутаркі» прасякнуты сатыраю на тагачасны існуючы лад: «...І вось запрэгліся ўсе трое», «Быкоўскі на пасадзе», «Навошта свінні рогі», «Сустрэча з Гогалем», «Клім», «Хіба яны правадыры?», «У хвасце» і іншыя.

Трэцяя група «Гутарак» — гістарычныя нарысы, публіцыстычныя артыкулы, палемічныя матэрыялы па надзённых праблемах. Прыкладам цудоўнага гістарычнага эсэ з'яўляюцца «Гутаркі»: «Рагвалод і Рагнеда», «Няміга і Менск», «Кастусь Каліноўскі», «Мсціслаў не аднаго сціснуў».

У шэрагу «Гутарак» М.Е. выказвае свае адносіны да гістарычных падзей мінулага, якія і цяпер з'яўляюцца прыкладам творчага палітычнага мыслення. Яны далёка пераўзыходзяць узровень ведаў не толькі тагачасных гісторыкаў, але і паказваюць накірунак мыслення для сучасных палітолагаў і гісторыкаў. На жаль, гэтая галіна спадчыны Міколы Іванавіча зусім не вывучана.

Вось для прыкладу «Гутарка» № 12 (19) ад 19.03.1976. Назва: «Ці страшная нам культура?» Мікола ўзгадвае вядомы адукацыйны праект, які рэалізоўвалі ў XVI стагоддзі на нашых землях езуіты, каб падняць прэстыж Касцёла, акаталічыць, а потым апалячыць жыхароў ВКЛ і ў першую чаргу беларусаў. Але хутка каталіцкая вярхушка спахапілася — адукацыя стала прыносіць зусім нечаканыя вынікі. Шляхта пачала

ўсведамляць сябе як старажытную частку «тутэйшага» народа, стала схіляцца да самавызначэння і вывучаць сваю мову (Ф. Скарына, С. Будны...). Ермаловіч піша:

> Польска-каталіцкія правіцелі ўбачылі, што культура — вельмі ненадзейны сродак удушэння народа, бо нават магнатаў і шляхту яны на свой бок перацягнулі не столькі культурай, колькі прывілеямі-падачкамі. І яны ўзялі ў свае саюзнікі цемру. Аб гэтым сведчыць так званы праект 1717 г., які можна з поўным правам назваць маніфестам цемрашальства.

Паводле гэтага маніфесту адкрыта прапаноўвалася не дапускаць беларусаў атрымліваць адукацыю і, пакідаючы іх у невуцтве, даводзіць да крайняй беспрасветнасці: папоў ставіць без адукацыі, каб яны не маглі вучыць народ; сялянскім сынам забараніць вучыцца ў школах. І, нібы суперажываючы з намі трагічныя ўкраінскія падзеі 2014 года, М.Е. абсалютна дакладна ставіць дыягназ польскай палітыцы канца XVIII ст:

> Рыхтуючы другім нацыянальную смерць, яна гэтым самым хутчэй наблізіла сваю палітычную смерць, разыйшоўшыся ў канцы XVIII ст. па руках суседзяў. Сучасным смертаносцам не пашкодзіла б улічыць гэтыя паказальныя ўрокі гісторыі!

Так, не пашкодзіла б памятаць урокі раздзелу адной з магутнейшых імперый таго часу — Рэчы Паспалітай.

А як надзённа гучаць развагі М.Е. у «Гутарцы» № 25 (32) ад 18.06.1976 пад назвай «Пра ідэалагічнае суіснаванне»! З жалезнай логікай тут даводзіцца думка пра заганнасць панавання адной ідэалогіі ў грамадстве, што непазбежна вядзе да застою думкі і грамадскага развіцця. М.Е. піша:

> Развіцця розных ідэалогій нельга спыніць, як нельга спыніць жыццё. І таму сцвярджэнне, што ў нас не

можа быць суіснавання ідэалогій, што ў нас можа быць толькі адна ідэалогія — нішто іншае, як наша чарговая фікцыя.

І абгрунтоўвае сваю выснову вельмі простым аргументам:

> ...варта прайсціся каля паліц любой нашай бібліятэкі, дзе ўбачыш, як стаяць побач кнігі Маркса і Гегеля, Леніна і Канта, Талстога і Маякоўскага і г. д. А гэта ж плёны розных ідэалогій. І не знойдзеш ніводнага больш-менш разумнага чалавека, нават самага акамянелага дагматыка, які б сказаў, што трэба выкінуць адных і пакінуць толькі другіх.

Вось у каго трэба вучыцца сучасным палітолагам і творцам «ідэалогіі беларускай дзяржавы», што спрабуюць у XXI стагоддзі ўсё багацце сусветнага чалавечага генія ў галіне філасофіі і навукі аб грамадстве ўвапхнуць у абмежаваную мёртвую схему, як у 70-я гады — у ідэалогію савецкай дзяржавы.

Нелегальны друк на Беларусі спыніў сваю дзейнасць у 1990 годзе, калі была прынята Пастанова Вярхоўнага Савета СССР «Аб увядзенні ў дзеянне Закона СССР «Аб друку і іншых сродках масавай інфармацыі», што скасавала савецкую цэнзуру.

Але тое, што быў такі перыяд у нашай гісторыі — гэта вялікая заслуга такіх людзей, як Мікола Ермаловіч. «Гутаркі» — гэта прыклад самаахвярнага служэння Бацькаўшчыне ва ўмовах жорсткай таталітарнай сістэмы, які даў нам выдатны сын беларускага народа. І таму мы маем магчымасць пачуць выдатныя радкі:

*Ты хочаш жыць для Беларусі,*
*Служыць за праўду ў барацьбе?*
*Тады, мой сябра, я звярнуся*
*З наступным словам да цябе.*

*Прымай жа праўду ты без страху*
*(Як некалі прыняў Кастусь),*
*Няма цяжэйшага больш шляху,*
*Чым у змагара за Беларусь.*
*«Гутарка» № 14 (21) ад 2.04.1976*

# Частка III. ГАЛОЎНЫЯ ТВОРЫ ЖЫЦЦЯ

## Па слядах аднаго міфа

Бясспрэчна, выхад у 1989 годзе невялічкай кніжачкі Міколы Ермаловіча «Па слядах аднаго міфа» —яскравая і знакавая з'ява ў грамадскім жыцці Беларусі XX стагоддзя. Кніга атрымала адно за адным тры выданні і застаецца бібліяграфічнай рэдкасцю. Аднак шлях да такога трыумфу быў вельмі і вельмі няпросты...

Выданню 1989 года папярэднічаў больш чым 20-гадовы перыяд «блукання па пакутах» кнігі і яе аўтара. Сам М.Е. датуе напісанне асноўнага тэксту 1968 годам. Машынапісны тэкст доўга хадзіў па руках, перадрукоўваўся, перапісваўся. Калі з'явілася першая капіравальная тэхніка, так званы «ксеракс» (у сярэдзіне 70-х гадоў), пачалі множыць рукапісы — канешне падпольна — на гэтай тэхніцы. Займеў і аўтар гэтай кніжкі той каштоўны асобнік, нават не адзін. А маючы знаёмага (аднакласніка) у друкарні, удалося аздобіць некалькі экзэмпляраў гэтых «Міфаў» прыгожым карычневым пераплётам.

Гісторыя аднаго з гэтых асобнікаў мела цікавы працяг. У 1981 годзе спаўнялася 50 гадоў другому знакамітаму і таксама мала шанаванаму на Бацькаўшчыне чалавеку — пісьменніку Уладзіміру Караткевічу. І вось аўтар гэтай кніжкі і яшчэ адзін калега-фізік — набраўшыся адвагі, узялі і завіталі да яго проста ў кватэру па вуліцы Карла Маркса. У якасці падарунка ў нас

быў той самы пераплецены асобнік кнігі М. Ермаловіча «Па слядах аднаго міфа». Падарунак быў вельмі дарэчы — Уладзімір Сямёнавіч шмат ведаў пра Міколу Ермаловіча, але гэтага твора не чытаў.

АБ УСІМ, ШТО БАЛІЦЬ

№ 1/8/—2.I—1976
МЕНСК

ТОЛЬКІ ГУТАРКА ХОДЗІЦЬ ТАКАЯ...
Я.КУПАЛА

ГУТАРКА

РАГВАЛОД І РАГНЕДА

Рагвалод — першы гістарычна вядомы полацкі князь нароўні з Турам у Тураве, з якім ён прыйшоў, як гаворыць летапіс, з замор'я. Таму цалкам дапушчальна, што Рагвалод і Тур (а ў адным летапісе так і сказана) былі браты. Але, на жаль, з летапісу мы ведаем не столькі пра жыццё Рагвалода, колькі пра яго смерць, і таму ён належыць больш нашай перадгісторыі, чым гісторыі.

Але нягледзячы на скупыя звесткі пра яго, мы можам з упэўненасцю сказаць, што Рагвалод быў мудрым дзеячом. Ён умела выкарыстаў для Полацку, які запрасіў яго княжыць з славянскага Памор'я, тагачасныя абставіны. Тады, калі кіеўскі князь Святаслаў быў заняты далёкімі заваеўніцкімі паходамі, Рагвалод спакваля пашыраў Полаччыну і здабываў для яе незалежнасць, а для сябе гонар вольнага князя. Ворагі-суседзі раптам са здзіўленнем і страхам убачылі новую дзяржаву, якая ляжала на скрыжаванні важнейшых шляхоў і якая ў любы час магла замкнуць іх. Не могучы змірыцца з гэтым, яны не марудзілі з расправай. У 980 годзе князь Уладзімір робіць знішчальны паход на Полаччыну. Юная краіна не вытрымала шалёнага націску і геройчна пала, а яе тварэц — Рагвалод — разам з жонкай і двума сынамі быў па-зверску забіты. Пралітая кроў Рагвалода і яго сыноў стала барвовай зарой Беларусі. Так наша гісторыя ў самым пачатку стала трагедыяй, якая працягваецца ўжо цэлае тысячагоддзе.

Але на гэтай крывавай зары ўзышла наша першая зорка — Раг-

*Тытульная старонка кнігі «Па слядах аднаго міфа» з даравальным надпісам аўтару: «Шаноўнаму Анатолю Астапенку з падзякай за яго патрыятычную дзейнасць. 5.VIII.91. М. Ермаловіч. Маладзечна»*

Пачыналась жа эпапея выдання славутай кнігі «Па слядах аднаго міфа» з тых часоў, калі Ермаловіч жыў у Маладзечна. Электрычкі ў сталіцу тады яшчэ не хадзілі. Тым не менш кожны тыдзень ён выбіраўся ў Мінск. З ранку да позняга вечара ў згаданай ужо Ленінскай бібліятэцы штудзіраваў дакументы, летапісы, кнігі і брашуры XVII — XX стагоддзяў, падшыўкі газет і часопісаў... Пры гэтым начаваў дзе толькі выпадала: зрэдку ў гасцініцах, часцей — у знаёмых, а то і на чыгуначным вакзале. З дрэнным зрокам, стомленага за дзень ад напружанага чытання першакрыніц, сталічныя міліцыянеры вельмі часта прымалі Мікалая Іванавіча за чалавека падазронага і затрымлівалі. Пасля высвятлення асобы адпускалі. Калі ж пайшлі ў напрамку Мінска электрацягнікі, ён пачаў ездзіць з Маладзечна ледзь не штодзень. Менавіта ў той перыяд я ўпершыню і пабачыў Міколу Іванавіча ў «Ленінцы».

Уражвае колькасць кніг крыніц і летапісаў, што прайшлі праз вочы амаль невідушчага гісторыка. Гэта «Очерки истории Великого княжества Литовского» Антановіча, кнігі «Литовско-русское государство» Дашкевіча, «Сказание о князьях владимирских» Дзмітрыевай, «Образование Литовского государства» Пашуты, «Полоцкая земля» Аляксеева, «Киевская Русь» Грэкава, «Лекции по русской истории» Праснякова і, вядома ж, даследаванні Тацішчава, Салаўёва, іншых класікаў прафесійнай гістарыяграфіі*.

Мікола Іванавіч з абурэннем піша, што ўва ўсіх гэтых кнігах гучыць адна і тая ж канцэпцыя літоўскай заваёвы — амаль ва ўсіх тое ж самае, што і ў тым школьным падручніку «Гісторыя БССР» Абэцэдарскага. Вось ягоныя словы:

---

* Васіль Тацішчаў (1686—1750), Сяргей Салаўёў (1820—1879), Уладзімір Антановіч (1830—1908), Мікалай Дашкевіч (1852—1908), Аляксандар Праснякоў (1870—1929), Барыс Грэкаў (1882—1953), Уладзімір Пашута (1918—1983) — вядомыя расійскія гісторыкі. — *Рэд.*

У тоўстай кнізе Пашуты чытаю: «В Черной Руси, которую завоевал Миндовг, в тяжелые времена татарского нашествия княжил его сын Войшелк...» Вось так! Дык што ж гэта такое?! Дзякуй Богу, у 1959-м выйшла кніга «Белоруссия в эпоху феодализма», першы том чатырохтомнага збору дакументаў. Чытаю ўрывак з Іпацьеўскага летапісу: Міндоўг «Литву зане, паимана бе вся земля Литовьская». Божухна, сцвярджалі ж, што ён Чорную Русь заваяваў, а тут, у сапраўднасці, ён «Литву зане»... Дык дзе ж тая Літва? Калі я пачаў глыбей учытвацца, унікаць у тыя летапісы, дык за галаву ўзяўся: куды ж глядзелі тыя гісторыкі!?

Пазней, ужо ў сваім бліскучым даследаванні «Беларуская дзяржава Вялікае княства Літоўскае», ён сцвердзіць і пераканае нас, што Міндоўг не быў заваёўнікам Навагародка, а быў яго сапраўдным гаспадаром...

Утварэнне ВКЛ пачалося не з заваявання навагародскай зямлі Літвой, а наадварот, з заваявання Навагародскай зямлёй Літвы...

Колькі розуму, сіл, энергіі і часу аддаў Мікола Іванавіч, каб даказаць і замацаваць у нашай гістарычнай навуцы гэты аб'ектыўны тэзіс!

А пачынаўся яго ўваход у гістарыяграфію з канца 60-х гадоў. У 1969 годзе невялікі яго матэрыял быў надрукаваны ў зборніку «Тезисы докладов к конференции по археологии Белоруссии» (Минск, 1969, с. 233). Тэзісы называліся «Где была летописная Литва» і з'яўляліся, фактычна, адным з раздзелаў кнігі. У 1972 выйшаў артыкул Ермаловіча «Из истории Новогрудка», які быў фактычна тэзісным выкладаннем зместу кнігі.

Пазней адбіткі з гэтых тэзісаў, зробленыя на капіравальных машынах, працяглы час «хадзілі па руках» сярод інтэлігенцыі Мінска. Той жа Алесь Міткавец на пачатку 70-х гадоў прынёс у «Ленінку» такі адбітак і




*Карта Літвы па Ермаловічу. Малюнак самаго Міколы Іванавіча. (Дзяржаўны архіў літаратуры і мастацтва)*

мы з захапленем доўга разглядвалі тыя тэзісы і марылі пра Беларусь...

У Тэзісах была змешчана карта «Тэрыторыя летапіснай Літвы». Згодна аўтару тэрыторыя была даволі значнай, у яе ўваходзілі гарады Маладзечна, Заслаўе, Клецк, паселішча Рута і іншыя. Пазней Ермаловіч улічыў некаторыя заўвагі, тэрыторыя летапіснай Літвы была значна паменшана, але ў ёй яшчэ больш выразна абазначаны тапонімы «Літва». Гэты другі варыянт карты ён пазней надрукаваў у брашуры «Па слядах аднаго міфа» (1991) і ў многіх іншых сваіх работах.

Да гэтай карты адносяцца асноўныя крытычныя заўвагі. Бо наяўнасць тапонімаў «Літва» можна выкарыстаць не толькі для таго, каб абгрунтаваць, што на абазначаным абшары была летапісная Літва, але і для сцвярджэння таго, што яе не было ў гэтым месцы.

М.Е. разглядае шмат іншых сюжэтаў, якія даказваюць, што беларусам належыць выдатная роля ў стварэнні Вялікага Княства Літоўскага, без беларусаў літоўцы — у цяперашнім сэнсе гэтага слова — не змаглі б стварыць такую вялікую дзяржаву «ад мора да мора» і менавіта ў гэтым бясспрэчная заслуга Міколы Іванавіча.

М.Е. лічыў, што славянскія плямёны далі пачатак беларускай, украінскай і велікарускай народнасцям пасля іх перасялення ва Усходнюю Еўропу ў залежнасці ад таго, на якой тэрыторыі яны пасяліліся і якое карэннае насельніцтва суіснавала разам з імі.

Цэнтральная ягоная думка: беларусы «не збалтызаваныя славяне, а аславяненыя балты». Асіміляцыя балтаў адбывалася на працягу ўсёй далейшай гісторыі аж да нашага часу. Напрыклад, працэс беларусізацыі балцкіх этнічных элементаў назіраўся на тэрыторыі цяперашніх Астравецкага, Смаргонскага, Ашмянскага і суседніх раёнаў на працягу многіх стагоддзяў.

М.Е. меркаваў, што найгалоўнейшай з'явай этнагенезу беларусаў і фарміравання іх тэрыторыі з'яўляецца

ўзаемапранікненне і змешванне дрыгавіцкага, крывіцкага і радзіміцкага насельніцтва. Палачане былі першым вынікам дрыгавіцка-крывіцкага зрашчэння і менавіта гэтае аб'яднанне стала грунтам, на якім узнікла Беларусь.

Паводле даследаванняў Ермаловіча з IX да сярэдзіны XIII стагоддзя вядучую ролю ў грамадска-палітычным жыцці тагачаснай Беларусі адыгрываў Полацк, потым Новагародак. Ён сцвярджаў, што неабходна адрозніваць старажытную (летапісную) Літву, якая размяшчалася ў Верхнім Панямонні ў Беларусі, ад сучаснай Літвы («Летувы»).

У сваіх творах М.Е. звяртаўся да палітычнай гісторыі старажытных земляў Беларусі (Полацкай, Тураўскай, Пінскай, Новагародскай, Гародзенскай і іншых). Сюды ж далучалася і Смаленская зямля. Ён рашуча абверг тэзіс расійскіх дарэвалюцыйных і савецкіх гісторыкаў пра заваяванне літоўцамі («летувісамі») беларускіх зямель у другой палове XIII стагоддзя.

Гэты крок быў вызначальным. Гістарычная справядлівасць была адноўленая. Беларусы ізноў сталі паўнавартасным народам, з гэтага часу (з моманту адкрыцця Ермаловіча) народу была вярнутая ягоная годнасць. Менавіта аб гэтым марыла Ларыса Геніюш:

*Нам нястрашны сібірскі больш холад,*
*Нам нястрашны маскаль, або лях.*
*Чужы серп непатрэбны, ні молат —*
*Мы разгорнем крывіцкі наш сцяг!*

*Ларыса Геніюш.*
*Моладзі. Прага, 1942*

Больш за тое! Ермаловіч характарызуе Вялікае Княства Літоўскае *як беларускую дзяржаву* (!) у процівагу тым сучасным гісторыкам Летувы, якія абвяшчаюць ВКЛ выключна літоўскай дзяржавай.

Такім чынам М. Ермаловіч зрабіў важкі ўнёсак у гістарыяграфію Беларусі і яго ўплыў будзе доўга адчувацца.

На аснове летапісных крыніц М.Е. удакладніў і вызначыў межы Старажытнай Літвы, якая, паводле яго канцэпцыі, займала тэрыторыю ад Маладзечна да Заслаўя і Дзяржынска (усходняя мяжа Літвы праходзіла прыблізна ў 30 км ад Мінска), далей да сучасных гарадоў Баранавічы, Ляхавічы і Слонім. Заходняя мяжа старажытнай Літвы праходзіла прыкладна ў 20 км ад Навагародка, у раёне Карэліч. Па рацэ Бярэзіна (прыток Нёмана) праходзіла граніца паміж Літвой і Полацкім княствам.

А як жа называліся тыя землі, на якіх знаходзіцца цяперашняя Летува?

Усходняя частка сучаснай Летувы ў XI—XIII стагоддзях называлася Аўкштайціяй. Каля 1323 года сталіца ВКЛ з Навагародка была перанесена ў Вільню, таму назва «Літва» з Верхняга Панямоння з цягам часу перайшла на ўсход сучаснай Летувы і замацавалася там. Але аднačасова назва «Літва» захоўвалася і ўжывалася на ранейшым месцы яшчэ цэлыя стагоддзі.

Толькі на пачатку XX стагоддзя назва «Беларусь» замацавалася за Беларускім Панямоннем, выцесніўшы назву «Літва», якая з таго часу пачала ўжывацца толькі ў дачыненні да сучаснай Летувы.

М. Ермаловіч сфармуляваў новую — нацыянальную, беларускую навуковую канцэпцыю ўтварэння ВКЛ, удакладніў межы старажытнай Літвы. Коратка яго канцэпцыя выглядае наступным чынам.

*Па-першае:* Ніякага аслаблення беларускіх зямель у XII — пачатку XIII стагоддзя не было! Гісторыя БССР, што навязвалася нам некалі ў школе — наскрозь ілжывая. Ні летапісы, ні хронікі, ні іншыя гістарычныя крыніцы не зарэгістравалі фактаў заняпаду Полацкага і Тураўскага княстваў у той перыяд. Крыжацкая

навала аб'яднала беларускія княствы, каб даць адпор акупантам. Але ў канцы XII стагоддзя крыжакам усё ж удалося захапіць Ніжняе Падзвінне, Кукенойс і Герцыке і тым самым адрэзаць Полацкае княства ад Балтыйскага мора. У выніку гэтай падзеі цэнтр грамадскапалітычнага жыцця паступова стаў перамяшчацца з Падзвіння (Полацкае княства) у Панямонне (Навагародскае княства).

*Па-другое:* Літва, перш чым пачаць заваяванне зямель заходнерусаў, рабіла паходы супраць Наўгародчыны, Пскоўшчыны, Смаленшчыны, багацела і ўмацоўвалася. Але ўсе заваявальныя паходы, акрамя двух, закончыліся няўдачай для літоўцаў. Дарэчы, аб гэтым ніколі не гаварылася ў дарэвалюцыйнай і савецкай гістарыяграфіі. Чаму?

Ды таму, што гераізацыя літоўцаў была справай выгаднай для Расійскай канцэпцыі «старэйшага брата». Прынізіць беларусаў і ўкраінцаў, паказаць іх някегласць, хаця б і праз узвелічэнне літоўцаў — вось сутнасць расійскага шавінізму ў дачэнненні да нас. Як жа так, могуць запытаць? Атрымліваецца, што Расіі выгодна раскручваць літоўцаў, рабіць сапраўднымі гаспадарамі тутэйшых земляў? Менавіта так. І тады становіцца зразумелай прычына ўсяго шматгадовага процістаяння ВКЛ і Масковіі — пазней Расійскай Імперыі. Абгрунтоўваецца і агрэсія маскавітаў-расейцаў на заходнія краіны — ВКЛ, Рэч Паспалітую, якая скончылася ўрэшце анексіяй Беларусі на прыканцы XVIII ст. («Отторгнутое возвратих» — цынічна скажа пра гэтую падзею імператрыца Кацярына II).

Галоўная заслуга Ермаловіча ў тым, што ён развязаў галоўнае пытанне, якое паставіла ўсё на сваё месца: дзякуючы намаганням кан'юнктурных гісторыкаў сучасная Летува стала атаясамлівацца са старажытнай Літвою. А насамрэч, апошняя была гістарычнай вобласцю Беларусі, яе трэба шукаць побач з Полацкай,

Турава-Пінскай і Новагародскай землямі. Старажытная Літва ў свой час на тэрыторыі Беларусі пакінула свае тапонімы ў выглядзе назваў вёсак «Літва» ў Слонімскім раёне Гродзенскай вобласці, Ляхавіцкім Брэсцкай вобласці, Уздзенскім, Стаўбцоўскім і Маладзечанскім раёнах Мінскай вобласці. Гэтыя назвы вёсак (тапонімы «Літва») супадаюць з летапіснымі крыніцамі.

У сваёй канцэпцыі Ермаловіч разглядае і далейшы працэс утварэння ВКЛ. Пачатак утварэння ВКЛ ён звязвае з дзейнасцю літоўскага князя Міндоўга, імя якога ўпершыню згадваецца ў дагаворы 1219 года. У 1237 і 1245 гадах Міндоўг выступіў на баку Данілы Галіцкага супраць Конрада Мазавецкага і чарнігаўскага князя




*Літва па Ермаловічу*

Расціслава. У 1245—1246 гадах Міндоўг быў запрошаны куронамі для дапамогі ў змаганні з крыжакамі. Але пад крэпасцю Амботэн ён пацярпеў паражэнне і адступіў. Крыжакі напалі на яго землі, нанеслі вялікія спусташэнні і разбурэнні, што аслабіла пазіцыі Міндоўга ў Літве. Гэта выкарысталі яго праціўнікі, якія распачалі міжусобную барацьбу, у якой Міндоўг пацярпеў паражэнне і ўцёк у Навагародак. У Навагародку ён прыняў у 1246 годзе «веру христианскую от Востока со многими своими бояры», гэта значыць — праваслаўе. Гэты ж факт гаворыць аб тым, што Міндоўг *не заваяваў Навагародак, а быў абраны князем.* Калі б Міндоўг быў заваёўнікам, яму не трэба было б прымаць праваслаўе. Такім чынам, Міндоўг прыбыў у Навагародак не як заваёўнік, а як перабежчык, які ўцёк з Літвы са сваім родам і акружэннем.

Ермаловіч робіць выснову: утварэнне ВКЛ пачалося не з заваявання Навагародскай зямлі Літвой, а *наадварот, з заваявання Навагародскай зямлёю Літвы.*

Варта ўзгадаць тут і паслядоўнікаў М. Ермаловіча, напрыклад Здзіслава Сіцьку, які ў кнізе «Утроп Літвы» (2009 г.) развівае цікавую гіпотэзу аб тым, што пад этнонімам «літва» трэба разумець ваяроў — адметнае саслоўе, баявы авангард. Гэтая «літва» была на службе ў славянскіх князёў і ўдзельнічала ў ваенных паходах князя.

Пачынаючы з Міндоўга адбываецца аб'яднанне разрозненых славянскіх княстваў. Яго сын Войшалк канчаткова аб'ядноўвае Навагародскую, Пінскую, Нальшчанскую, Дзяволтваўскую, Полацка-Віцебскую і Літоўскую землі ў адзіную дзяржаву, што стала трывалым падмуркам утварэння ВКЛ. Калі далучэнне балцкіх зямель Літвы, Нальшчанаў і Дзяволтвы да Навагародка было гвалтоўным, то далучэнне Пінска, Полацка і Віцебска праходзіла добраахвотна. Пазней да ВКЛ далучыліся іншыя беларускія землі. Галоўную

аб'яднальную ролю ў складанні і пачатковай гісторыі ВКЛ меў найперш Новагародак.

Ермаловіч называе ВКЛ беларускай дзяржавай, бо яе асновай стала Беларускае Панямонне з цэнтрам у Навагародку. І таму, што асноўную ролю ў яе стварэнні адыгралі беларускія феадалы. І таму, што пануючымі ў дзяржаве былі беларуская мова і беларуская культура. У ВКЛ на працягу ўсёй яго шматвяковай гісторыі не прагучала афіцыйна ніводнага жамойцкага слова. Уся Літоўская метрыка, дзяржаўныя акты, дакументы, летапісы, хронікі, творы мастацкай літаратуры пісаліся на старажытнай беларускай мове. Ні адна еўрапейская краіна ў той час у афіцыйным ужытку не карысталася сваёй роднай мовай, а ўжывала лацінскую. ВКЛ было выключэннем з гэтага правіла, бо карысталася не лацінскай мовай, а роднай, сваёй, старабеларускай мовай. У перыяд існавання ВКЛ цяперашнія летувісы (жамойты) сваёй уласнай пісьменнасці не мелі. Пісьменасць ў іх з'явілася на аснове лацінскай графікі з XVI стагоддзя. Літаратурная мова летувісаў склалася ў канцы XIX — пачатку XX стагоддзя.

Вось такія асноўныя палажэнні навуковай канцэпцыі ўтварэння Вялікага Княства Літоўскага Мікалая Іванавіча Ермаловіча паводле яго працы «Па слядах аднаго міфа».

Зразумела, канцэпцыя Ермаловіча не магла адразу быць прынятай афіцыйнай гістрычнай навукай. Занадта смелыя, рэвалюцыйныя погляды прапанаваў гісторык-аматар. Але аргументы былі стопрацэнтныя. Асабліва хваравіта ўспрынялі ідэі Ермаловіча летувіскія гісторыкі, і найперш тыя, што выпрацоўвалі нацыянальную гісторыю літоўцаў.

Цэнтральнай фігурай, сваеасаблівым літоўскім «абэцэдарскім» быў Эдвардас Гудавічус, вядомы сваёй фундаментальнай «Гісторыяй Літвы», дзе на працягу амаль 1000 старонак тэксту не найшлося месца для

таго, каб хоць прыгадаць беларусаў як суседзяў Літвы, не тое што суб'ектаў адзінай гісторыі.

Э. Гудавічус надрукаваў аб'ёмную крытычную рэцэнзію, дзе, не маючы ніводнага (!) сапраўднага аргумента супраць канцэпцыі Ермаловіча, выкарыстаў тыпова бальшавіцкі прыём перакручвання і скажэння матэрыялу з мэтай ачарніць і зняславіць аўтара.

«Міфам М. Ермаловіч называе тое, што літоўцы называліся літоўцамі. Значыць, змяняюцца аксіёмы ў сістэме доказаў», — піша Гудавічус. Гэтак ён зразумеў міф пра заваёву літоўцамі беларусаў і пра што бесдакорна распавёў у сваёй знакамітай кнізе беларускі гісторык. Нідзе Ермаловіч не піша пра такое разуменне міфа, «што літоўцы называліся літоўцамі». У сваім адказе Гудавічусу Мікола Ермаловіч піша на гэты конт:

> Я называю міфам укараненнае ў гістарычнай навуцы сцверджанне, што ўтварэнне ВКЛ у сярэдзіне XIII ст. бярэ пачатак ад заваявання літоўскім князем Міндоўгам шэрагу беларускіх земляў і ў першую чаргу т. зв. Чорнай Русі з горадам Навагрудкам, Валкавыскам, Слонімам... На падставе летапісных сведчанняў устаноўлена, што Літва ў XI—XIII ст. знаходзілася не на тэрыторыі сучаснай Літвы, а на тэрыторыі сучаснай Беларусі — Панямоння ...гэта закрэслівае ўкараненную ў гістарычнай навуцы версію аб утварэнні ВКЛ і таму невыпадкова Э. Гудавічус засяродзіў сваю ўвагу на абвяржэнні гэтай маёй высновы.

Крытыка Э. Гудавічуса разгарнулася і вакол таго, у якіх межах выкарыстоўваўся сам тэрмін «Літва». Ён даводзіў Ермаловічу, што ў той час і Жамойція называлася Літвой. Але гэты тэзіс лёгка адвяргаецца простым аргументам — поўная назва ВКЛ была «Вялікае княства *Літоўскае*, Рускае і *Жамойцкае*». Каб Літва і Жамойць былі адной дзяржавай — дык навошта нават у назве іх ставіць паасобку?

Не толькі літоўскія гісторыкі прынялі пазіцыю непрыняцця канцэпцыі М. Ермаловіча. Самае крыўднае, што свае (!) беларускія гісторыкі ў штыкі ўспрынялі адкрыццё Міколы Іванавіча. На працягу 70-х і яшчэ больш — 80-х, замест таго каб працягнуць руку дапамогі і дастойнай ацэнкі тытанічнай працы вучонага, ён атрымлівае толькі знявагу, абразы і ... задушэўныя размовы з супрацоўнікамі спецслужб.

## «Животное ископаемое», альбо Пад пільным вокам КДБ

Так назваў Міколу Іванавіча ў 1986 годзе начальнік Маладзечанскага КДБ Іваноў, выступаючы на нарадах агітатараў. Іванову, які быў прыстаўлены сачыць за гісторыкам, было дзіўна бачыць і тым больш цярпець у сваёй маладзечанскай «вотчыне» чалавека з іншага свету — сумленнага, бескарыслівага, а галоўнае — маючага сваю ўласную думку, свой погляд на беларускую гісторыю. Таму ён, як піша сам Ермаловіч, «характарызаваў мяне, як «животное ископаемое» (відаць, таму, што я заўсёды гаварыў на беларускай мове, якую ён лічыў канчаткова забітай, пахаванай і таму выкапнёвай)».

Цікава, што той жа супрацоўнік прызнаўся, што спецслужбы сочаць за ім ажно з 1948 года.

> Апроч таго ён, у пацверджанне маёй шкоднасці для савецкага ладу, прывёў шэраг маіх выказванняў, якімі я дзяліўся ў гутарках са знаёмымі з 1948 па 1966 гады.

На працягу 40 гадоў за Ермаловічам вёўся нагляд, яговыя выступы заўсёды запісваліся і, акрамя таго, Міколу Іванавіча неаднаразова выклікалі ў КДП для «бесед».

Аббіваючы парогі выдавецтваў і навуковых інстытутаў, М.Е. нарэшце дабіўся ўключэння ў план выдавецтва «Навука і тэхніка» на 1987 год кнігі «Па слядах аднаго міфа». Падставай да такога рашэння паслужыла выпіска з пасяджэння кафедры «Гісторыі СССР, БССР

и замежных краін» Мінскага інстытута культуры ад 5.08.1987 года. Выпіска сведчыць: «Пастанавілі: рэкамендаваць твор «Па слядах аднаго міфа» да друку». На пасяджэнні прысутнічалі А. П. Грыцкевіч, В. С. Пассе, Л. А. Савіцкая. Мелася таксама рэцэнзія за подпісам В. У. Чапко, А. П. Грыцкевіча і А. А. Трусава.

Аднак нечакана на пасяджэнні дзяржкамвыдата з падачы намесніка дырэктара Інстытута гісторыі АН БССР Міхаіла Касцюка кнігу выключылі з плана выдавецтва.

Перажыўшы гэты чарговы ўдар лёсу, Мікола Іванавіч звярнуўся з лістом да старшыні дзяржкамвыдата БССР М. І. Дзяльца з просьбай разгледзець справу выключэння з плана выдавецтва «Навука і тэхніка» кнігі «Па слядах аднаго міфа». У заключэнні ён напісаў:

> Палажэнні маёй кнігі, якія абвяргаюць ранейшыя сцверджанні аб так званым літоўскім заваяванні Беларусі, зроблены на падставе дэталёвага аналізу гістарычных фактаў, аб чым сведчыць, што ў ёй зроблена 325 спасылак на крыніцы. Усё гэта можа характарызаваць у пэўнай ступені і навуковую грунтоўнасць кнігі. 10.12.1987.

У выніку, у 1989 годзе кнігу «Па слядах аднаго міфа» нарэшце выдалі.

Добра, што знайшліся гісторыкі, якія зразумелі народнага гісторыка і дапамаглі яму. Сярод такіх быў доктар гістарычных навук Анатоль Грыцкевіч. Ён піша:

> ...Міф пра літоўскую заваёву тэрыторыі Беларусі, створаны ў XVI стагоддзі, упершыню з'явіўся ў літаратурна-публіцыстычным творы «Сказание о князьях владимирских». Нараджэнне гэтага міфа звязана з тагачасным імкненнем вялікіх князёў маскоўскіх давесці іх уяўныя правы на землі Беларусі і Украіны. Таму ў «Сказании...» вялікія князі Віцень і Гедымін выступаюць як захопнікі гэтых земляў, якія павінны быць вернуты

законнаму гаспадару — вялікаму князю маскоўскаму. Ермаловіч падкрэсліў, што значнай перашкодай для аб'ектыўнага асвятлення пачатковага перыяду гісторыі Вялікага Княства Літоўскага з'яўляецца атаясамліванне летапіснай Літвы з усходняю часткаю сучаснай літоўскай рэспублікі.

Геніяльнае заўсёды проста. Аргументы, прыведзеныя Ермаловічам у знакамітай кніжачцы, на сто адсоткаў неабвержныя. І тым не менш — 400 гадоў у гістарычнай навуцы панавала антыбеларуская антыгісторыя. Паслухайма яшчэ раз:

> Ніводная гістарычная крыніца не пацвярджае літоўскай заваёвы Чорнай Русі ды іншых беларускіх земляў, што нібыта і паклала пачатак утварэнню Вялікага Княства Літоўскага. Такое сцверджанне ўзнікла ў сярэдзіне XVI ст., каб ідэалагічна абгрунтаваць права вялікага князя літоўскага на беларускія землі, значная частка якіх тады часова была занята войскамі Івана Жахлівага. Праз «Кроніку» М. Стрыйкоўскага гэтая версія перайшла ў многія кнігі па гісторыі, пазней была некрытычна прынятая шмат якімі даследнікамі і, стаўшы традыцыйнай, доўгі час не пераглядалася.
>
> Значнай перашкодай для аб'ектыўнага асвятлення працэсу ўтварэння Вялікага Княства Літоўскага ёсць атаясамліванне летапіснай Літвы з усходняй часткай сучаснай Летувы. Аднак гістарычныя сведчанні і тапаніміка паказваюць, што пад Літвой у XI—XIII стст. разумелася тэрыторыя Верхняга Панямоння, якая знаходзілася паміж Полацкай, Турава-Пінскай і Навагародскай землямі і якая побач з імі з'яўлялася адным з гістарычных рэгіёнаў Беларусі. Менавіта яна і была далучаная да Навагародка спачатку ў 50-х гадах XIII ст. літоўскім перабежнікам Міндоўгам, а пасля ў 60-х гадах XIII ст. канчаткова яго сынам Войшалкам... (Заключэнне кнігі «Па слядах аднаго міфа»).

## «Старажытная Беларусь»

Праца М. Ермаловіча «Па слядах аднаго міфа» пабачыла свет толькі ў 1989 годзе. Але больш аб'ёмны і грунтоўны ягоны твор — «Старажытная Беларусь», як ні дзіўна, пабачыў свет на год раней.

Атрымалася гэта наступным чынам. У рэдакцыю часопіса «Маладосць» завітаў Мікола Ермаловіч. Журналісты добра ведалі народнага гісторыка, паважалі яго і галоўнае — падтрымлівалі ягоныя погляды. Галоўным рэдактарам «Маладосці» быў Генрых Далідовіч, вядомы сваімі дэмакратычнымі поглядамі. І ён, пачуўшы прамову Ермаловіча пра тое, што дзяржаўнасць Беларусі пачынаецца не з 1917 года, а мае тысячагадовую гісторыю, прапанаваў Ермаловічу напісаць артыкул пра гэта.

«Сябры, вы падставіцеся...» — перасцерагаў рэдакцыю часопіса Мікола Іванавіч, але артыкул напісаў. Артыкул быў надрукаваны. І адразу ў газеце «Звязда» з'явіўся разгромны артыкул прафесара Адама Залескага.

Г. Далідовіч:

> Прыбягае Мікола Іванавіч у рэдакцыю часопіса: «Божа мой, як жа я вас падвёў!» Залескі абвінавачваў рэдакцыю ў тым, што яна заняла антыпартыйную, антыкласавую пазіцыю...

Па савецкіх часах гэта было вельмі сур'ёзнае абвінавачанне, якое абумоўлівала, кажучы сучаснай мовай, «сур'ёзныя санкцыі» супраць рэдакцыі. Але Генрых Далідовіч не спужаўся, а наадварот — прапанаваў Ермаловічу прынесці для друку новы, больш грунтоўны твор. І Мікалай Іванавіч прынёс «Старажытную Беларусь». Самае галоўнае было правесці рукапіс праз Галоўліт. Генрых Вацлававіч з горыччу ўспамінае:

> І мы вырашылі заказаць прадмову. Я звярнуўся да васьмі дактароў гістарычных навук, прафесараў напі-

саць рэцэнзію і тым самым падтрымаць М. І. Ермаловіча. Усе адмовіліся ад прапановы. А гэта ж былі галоўныя навуковыя кадры тагачаснай Беларусі!

Тады галоўны рэдактар папрасіў падтрымкі ў Міколы Стэфанавіча Сташкевіча, які працаваў у Інстытуце гісторыі партыі. Мікола Стэфанавіч сказаў: «Я падтрымаю вас там, дзе трэба». І сапраўды падтрымаў. Твор Міколы Іванавіча выйшаў асобнай кніжкай.

## Ермаловіч пра гісторыю хрысціянства на Беларусі

Працы Міколы Ермаловіча на тэму паходжання хрысціянства на Беларусі і яго далейшага лёсу мала вядомыя, але, як і ўсё ім напісанае, заслугоўваюць самай пільнай увагі. Мікалай Іванавіч ніколі не паддаваўся на модныя ўплывы ці ўздзеянне вядомых аўтарытэтаў, не прымаў ніякага меркавання па гістарычнай праблеме, пакуль сам не прааналізоўваў адпаведныя гістарычныя крыніцы.

Напачатку 90-х гадоў пачаліся пошукі беларускай нацыянальнай веры. На гэтую «вакансію» была высунатая ідэя ўніяцтва як «веры бацькоў», як «беларускай веры». Праваслаўе лічылася заплямленым расійскай імперскай ідэяй Трэцяга Рыму і «рускай» верай, каталіцызм — «польскай». А тое, што большасць беларусаў заўсёды былі праваслаўнымі і гістарычна ВКЛ пачыналася як праваслаўная дзяржава, неяк не пасавала маладым рэвалюцыянерам 90-х гадоў.

У артыкулах «Полацкая Сафія і яе роля ў пачатковай гісторыі Беларусі», «У імя Бога і Айчыны» (сшытак «Праваслаўе ў старажытнай Беларусі») Мікола Ермаловіч прыводзіць шэраг цікавых думак пра сутнасць старажытнага праваслаўя на Беларусі.

Першая выснова тычыцца адказу на пытанне «Ці стала Полацкае княства ў большай залежнасці ад Кіева

пасля прыняцця хрысціянства?» Мікола Іванавіч адказвае — не, наадварот, атрымала яшчэ большую незалежнасць. Ён піша:

> Як з'яўленне хрысціянства ў Кіеў з Візантыі не прыкавала яго палітычна да гэтай імперыі, так і прыход хрысціянства з Кіева ў Полацк ніколькі не садзейнічаў падначаленню Полацкага княства Кіеўскаму князю. Наадварот, менавіта з прыняццем хрысціянства пачынаецца самастойнае дзяржаўнае жыццё.

Слушныя думкі выказвае М.Е. адносна з'яўлення назвы «рускі» на нашых землях. Логіка ягоная простая: праваслаўе прыйшло з Кіева, які ўвасабляў Русь, таму і гэтая назва пачала пераходзіць на полацкія землі. «А сама вера атрымала назву руская», — падкрэсліў гісторык. Ужо ў XIII ст. лівонскі храніст Полаччыну называў «Русіяй», а полацкага князя — каралём русаў. Адсюль становіцца зразумелым паходжанне назвы Белая Русь. Ермаловіч адзначае:

> А праз стагоддзе (г. зн. у XIV ст. — *А. А.*), у адрозненне ад усіх рускіх земляў, дзе замацавалася праваслаўная вера, Полаччына пачала называцца Белай Руссю, што побач з іншым падкрэслівала яе этнічную адметнасць.

Ермаловіч не ставіць пад сумнеў праваслаўны характар беларускага хрысціянства. Ён выкрывае спробы каталікаў «перацягнуць» на свой бок, зрабіць каталічкай вялікую праваслаўную асветніцу, святую Еўфрасінню Полацкую. Добра вядома, што славутая асветніца і нябесная заступніца зямлі Беларускай Святая Еўфрасіння памерла ў 1173 годзе ў Ерусаліме, куды прыехала як паломніца.

> Але каталіцкія фальсіфікатары паказвалі, што яна паехала ў Рым. Палітычная мэта гэтага падману крыецца ў тым, каб пераканаць беларускі народ, што яшчэ

ў далёкія часы яго лепшыя людзі не цураліся Рымскай царквы і верна служылі ёй» (артыкул «У імя Бога і Айчыны»).

Яны нават фальсіфікавалі знакаміты крыж Лазара Богшы, дзе зрабілі патрэбныя ім надпісы.

Праваслаўны характар беларускай царквы пачаў мяняцца з XV і асабліва XVI стагоддзя, калі ішоў працэс наступу каталіцтва і асабліва яго ўніяцкага адгалінавання, адметнага тым, што ў ім (асабліва напачатку) максімальна захоўваўся праваслаўны ход набажэнства.

У сваіх творах Ермаловіч адзначае гвалтоўны характар распаўсюджання уніі на Беларусі. Але з цягам часу ўніяцкая царква набывала ўсе большае распаўсюджанне, асабліва сярод простага, мужыцкага насельніцтва Беларусі. Гэты факт прымушаў святароў пры набажанстве пераходзіць на беларускую мову. Ермаловіч адзначыў, што ў выніку «ўніяцкая царква набывала значэнне беларускай нацыянальнай царквы» (Беларуская дзяржава Вялікае княства Літоўскае. Мінск, 2000, с. 369).

# Частка IV.
# ГРУКАЙЦЕ І ВАМ ДАДЗЕНА БУДЗЕ!

## Нацыянальна-дэмакратычная партыя Беларусі

Мікола Ермаловіч быў не проста кабінетным вучоным. Ён заўсёды трымаў актыўную грамадзянскую пазіцыю, імкнуўся рэалізаваць на практыцы свае погляды на развіццё беларускай мовы і беларускай нацыі. Яшчэ ў 50-я гады, бачачы катастрафічную сітуацыю з беларускай мовай у Маладзечна і думаючы, што мясцовыя ўлады пра гэта не ведаюць, ён вырашыў схадзіць на прыём да Сяргея Прытыцкага (1913—1971), тагачаснага

кіраўніка Маладзечанскай вобласці. Прытыцкага не застаў, затое паразмаўляў з ягонай жонкай, якая сказала:

> Да бросьте вы свои дурацкие разговоры об этой мове. Сергей Осипович всё прекрасно знает и полностью поддерживает линию партии по этому вопросу.

Такі адказ літаральна шакіраваў гісторыка, але не адвярнуў ад барацьбы за свае погляды. З самага пачатку ўзнікнення Беларускага народнага фронта, з 1988 года, Мікола Іванавіч горача падтрымаў гэты новы на Беларусі фармат антыкамунізму і нацыянальнага адраджэння. Ён прымаў удзел у Першым з'ездзе БНФ у 1989 годзе ў Вільні. А ў 1990 годзе прыняў прапанову кіраўніцтва Нацынальна-дэмакратычнай партыі Беларусі далучыцца да яе дзейнасці і стаў адным з трох яе старшыняў.

Найбольшы ўнёсак у дзейнасць НДПБ Мікола Іванавіч зрабіў як ідэолаг. Наогул гэтая старонка ягонай дзейнасці зусім не вядомая сучаснікам. Ні пра ўдзел гісторыка ў стварэнні ідэалогіі нацыянальнай дэмакратыі, ні пра працу на пасадзе сустаршыні ў самай правай партыі Беларусі пачатку 90-х — Нацыянальна-дэмакратычнай партыі (НДПБ) — амаль нідзе нават не ўзгадваецца.

Нацынал-дэмакраты...

Хто яны былі? З канца 20-х гадоў XX стагоддзя пад такім ярлыком аказаліся ў БССР самыя розныя людзі — пісьменнікі, вучоныя, працоўныя, сяляне, але найперш інтэлігенцыя і святары. Усе тыя, хто хацеў нацыянальнага адраджэння і дэмакратычных пераўтварэнняў у грамадстве. Найлепш пра сутнасць наццдэмаўшчыны сказаў у сваім артыкуле «У шэрагу першых» сам М.Е. Гэты артыкул славуты гісторык напісаў як адмысловую прадмову да кнігі «Паслухайце нацыяналіста» — аўтара гэтага нарыса, якую, на жаль, Мікола Іванавіч не паспеў пабачыць — яна выйшла ў тым жа 2000 годзе, на месяц пазней ягонай трагічнай смерці:

У 20-я гады нацыянал-дэмакраты былі галоўнай сілай у беларусізацыі ўсіх бакоў нашага жыцця: эканомікі, культуры, асветы. Можна ўявіць тую пачварную шкоду, якая была нанесена нашаму народу ў выніку сталінскага тэрору ў 30-я гады. Абвінавачанне ў нацдэмаўшчыне было самым страшэнным супроць тых, хто ў той ці іншай меры ўдзельнічаў у нацыянальнай адбудове Беларусі. А трагічным вынікам гэтага стала вынішчэнне беларускай інтэлігенцыі, што прывяло ў далейшым да заняпаду ўсёй нацыі.

Увага да нацдэмаў 1920—30-х гадоў распачала новы вiток з пачаткам «перабудовы» ў канцы 1980-х гадоў. Утварэнне Беларускага народнага фронта і экспаненцыяльны рост публікацый на тэмы беларускай гісторыі, культуры і публіцыстыкі расквітнеў з абвяшчэннем незалежнасці Беларусі ў 1991 годзе. Мары патрыётаў Бацькаўшчыны сталі спраўджвацца: Беларусь атрымала незалежнасць, беларуская мова набыла статус дзяржаўнай мовы. Вакол Беларускага народнага фронта згуртавалася тысячы людзей, якіх вабілі ідэі дэмакратыі і нацыянальнага адраджэння.

Вось тут, у віхуры тых імклівых падзей пачатку 90-х і была створана першая нацыянальная беларуская партыя — Нацыянальна-дэмакратычная партыя Беларусі (НДПБ). Патрэба яе ўзнікла — з аднаго боку, як спроба аднаўлення працы нацдэмаў 20-х, а з другога — як вылучэнне з БНФ самай патрыятычнай ягонай часткі.

На II канферэнцыі НДПБ, што адбылася 3 лістапада 1991 года, былі абраныя тры старшыні партыі: Віктар Навуменка, Анатоль Астапенка (аўтар гэтага нарыса) і Мікола Ермаловіч. Ермаловіч быў яе гонарам і, калі так можна сказаць, «візітнай карткай НДПБ».

Зразумела, улічваючы век Міколы Іванавіча (70 год) і стан здароўя — апошняе было галоўным — ён не браў удзелу ў звычайных, рабочых мерапрыемствах партыі,

бо амаль нічога не бачыў. Аднак ён амаль ніколі не прапускаў паседжанняў Управы НДПБ. Негалосным правілам, якое ўваходзіла ў абавязкі сброў Управы, было наступнае: трэба было правесці гісторыка ад корпуса тэхналагічнага інстытута па вуліцы Свярдлова (там адбываліся паседжанні Управы НДПБ) да чыгуначнага вакзала і пасадзіць яго на цягнік да Маладзечна. Зрок у Міколы Ермаловіча быў такі слабы, што здалёк ён нікога не пазнаваў і трэба было пры сустрэчы заўсёды прадстаўляцца. Выглядала гэта прыкладна так:

— Дзень добры спадар Мікола... — працягваю для пажацця руку і прадстаўляюся:

— Анатоль Астапенка...

У адказ заўсёды радасна:

— А, Анатоль, прывітанне, як пажываеце?

І пачынаецца гутарка.

У тыя гады мною былі напісаны важныя працы: «Дзве тэзы аб нацыянальнай дэмакратыі», «Шляхі нацыянальнага адраджэння», «НДПБ — тэорыя і практыка» і г. д. Немалую ролю ў стварэнні гэтых прац, а пазней кніг «Паслухайце нацыяналіста» і «Нацыянальная ідэя ў сучасным свеце» адыграў М. І. Ермаловіч.

Пасля яго прыходу ў НДПБ праца партыі паднялася на якасна новы ўзровень.

Першае: сталі рэгулярна праводзіцца міжпартыйныя семінары «Шляхі нацыянальнага адраджэння». Ідэя такіх навукова-адукацыйных семінараў зыходзіла ад аўтара гэтай кніжкі, але знайшла вялікую падтрымку у васобе Міколы Іванавіча. Тэмы паседжанняў былі розныя: «Эканамічныя праблемы Беларусі», «Адраджэнне нацыянальнай беларускай царквы», «Нацыянал-дэмакратыя» і г. д. Бралі ўдзел ў гэтых семінарах вядомыя палітыкі, навукоўцы, духоўныя і культурныя дзеячы: прафесар-фізік Юры Хадыка, прафесар-эканаміст, зусім нядаўна адышоўшы ў лепшы свет (у 2013 г.) Уладзімір Кулажанка, эканаміст Леанід Злотнікаў, святары

айцец Ігар (Карастылёў), айцец Георгій (Латушка), паэт Алег Бембель (цяпер манах Іаан), старшыня сялянскай партыі (цяпер ужо нябожчык) Яўген Лугін, гісторык Алег Трусаў і многія іншыя. Неадменным ідэйным натхняльнікам гэтых сустрэч быў Мікола Ермаловіч.

Кожны праведзены семінар асвятляўся ў прэсе як значная грамадская падзея. Пад загалоўкам «Семінар, што працуе на адраджэнне» папулярная тады газета «Добры вечар» 28 лютага 1991 года пісала:

> У Мінску, у памяшканні БТІ С. М. Кірава пачаў працаваць дыскусійны семінар, арганізаваны Нацыянальна-дэмакратычнай партыяй Беларусі. Мэта семінара — шырокае знаёмства слухачоў з сапраўднай, а не скажонай гісторыяй рэспублікі, з яе культурай, літаратурай, навукай, а таксама з позіркам сучасных дэмакратаў на акадэмічныя, экалагічныя ды іншыя праблемы савецкага народа...

Другое: пра партыю быў зняты тэлефільм, які паказала БТ. Здымкі вяліся ў Мінску і ў Маладзечне. У Маладзечне НДПБ мела адну з наймацнейшых суполак, там жыў Ермаловіч і таму пастанавілі зрабіць матэрыял «на прыродзе». Сапраўды, у Маладзечне кіраўнік суполкі Лявон Шыман меў свой прыватны дом і дзялку. У ягоных апартаментах і здымалі.

Узімку 1992 года з'явілася магчымасць друкаваць матэрыялы НДПБ. Першая газета Беларускага народнага фронта «Навіны БНФ «Адраджэньне», галоўным рэдактарам якой быў Алесь Суша, выдзеліла сталую старонку для матэрыялаў НДПБ. У студзені 1992 года выйшаў другі нумар «Навінаў», дзе адна старонка змяшчала матэрыялы аўтараў з НДПБ. Мікола Ермаловіч у «Слове да чытача» напісаў:

> З нагоды адкрыцця старонкі нацыянальна-дэмакратычнае партыі Беларусі ў газеце «Навіны Араджэньня» хацелася б па магчымасці падзяліцца нашымі плана-

мі. Найперш мы будзем знаёміць з мэтамі й задачамі нашага руху. Сярод іх найбольш важнымі ёсць напаўненьне сапраўдным зьместам нашага дзяржаўнага суверэнітэту, стварэньне спрыяльных умоў для разьвіцьця беларускае культары, асьветы, беларусізацыі ўсіх сфэраў дзяржаўнага, эканамічнага і грамадскага жыцьця.

У сувязі з падпісаньнем пагадненьняў СНД беларускія нацыянальныя дэмакраты будуць звяртаць асаблівую ўвагу на тое, каб Рэспубліка была па-сапраўднаму самастойнай дзяржаваю й ніякім чынам не змагла зноў падпасьці пад уладу таго ці іншага цэнтру, адначасова захоўваючы з усімі дзяржавамі Садружнасьці шчыльныя эканамічныя сувязі.

М. Ермаловіч, сустаршыня НДПБ2.

Як відаць з прыведзенага тэксту, і Ермаловіч і ўсе партыйцы моцна засцерагаліся ў той час непажаданай магчымасці, каб СНД не замяніла сабой СССР з яго аўтарытарызмам і іншымі савецкімі «каштоўнасцямі». Здабыць незалежнасць краіны важна, але гэта далёка не ўсё, каб стаць прававой і дэмакратычнай дзяржавай.

На старонцы НДПБ у гэтым студзеньскім нумары «Навінаў БНФ» быў змешчаны артыкул Ермаловіча «Нашая задача — узнавіць і працягнуць працу „нацдэмаў" 1920-х». У артыкуле ён выказаў думкі, якія можна пакласці ў аснову філасофіі беларускага нацыяналізму:

Зближэнне народаў не толькі значыць іх адмірання, але наадварот, яшчэ больш іх крышталізуе. Як слушна заўважалі ў 80-х гадах мінулага стагоддзя беларускія народнікі, без усведамлення свае адметнасці кожным народам, усё чалавецтва было б статкам.

Вучоны ўпершыню выклаў сваю пазіцыю, пазней агучаную ў кнізе «Беларуская дзяржава Вялікае Княства Літоўскае». Ён пісаў:

Улічваючы, што асаблівую шкоду для праўдзівага бачання нашае гісторыі нанёс тэзіс пра бездзяржаўнасць

> Беларусі да 1919, г. зн. да абвяшчэння БССР, трэба асаблівую ўвагу зьвярнуць на факты, якія яскрава сьведчаць аб раньніх дзяржаўных утварэннях на нашай зямлі: Полацкім, Турава-Пінскім, Смаленскім й Новагародскім княствах. Асаблівая ўвага мусіць быць звернута на Вялікае княства Літоўскае, якое было створана не літоўскімі князямі, а нашым народам, і якое было працягам гісторыі папярэдніх дзяржаўных утварэнняў Беларусі. Гэтым толькі можна й вытлумачыць, чаму ў Вялікім Княстве Літоўскім дамінавала беларуская культура, а беларуская мова была дзяржаўнай. Гісторыя Вялікага Княства Літоўскага мусіць трактавацца як *час найвялікшага ўздыму дзяржаўнасці* Беларусі ў мінулым (вылучэнне маё. — *А. А.*).

Вось як мусіць быць: «*Час найвялікшага ўздыму дзяржаўнасці!*» А згодна з сучаснымі «тэорыямі», незалежнасць Беларусі датуецца годам перамогі ў Вялікай Айчыннай вайне. Які тут уздым нацыянальнай свядомасці і гонару «за слаўнае мінулае» можа быць?! Нельга змешваць адно свята з другім. Людзям зразумела тое, што мы перамаглі ў Айчыннай вайне і 3 ліпеня адзначаем Свята вызвалення Беларусі ад нацысцкіх захопнікаў (хоць напярэдадні ёсць свята 9-га мая — Дзень Перамогі). Але чаму пры ліпеньскім свяце стаіць яшчэ слова «незалежнасць» і як яно лучыцца з нашай гісторыяй — гэта мала хто растлумачыць, бо дзяржаўныя СМІ пра гэта маўчаць.

Мікола Іванавіч лічыў, што хоць Беларусь і страціла сваю дзяржаўнасць як Вялікае Княства Літоўскае ў часы Расійскай Імперыі, але памяць пра гэту дзяржаўнасць жыла ў свядомасці многіх беларусаў, такіх, як Кастусь Каліноўскі, гоманаўцы, нашаніўцы. Ён лічыў, што менавіта іх працаю і аджыло ўсведамленне здабыць сваю дзяржаўнасць, якая толькі і магла даць росквіт матэрыяльных і духоўных сілаў Беларусі.

## Беларуская дзяржава Вялікае Княства Літоўскае

Так была названая апошняя кніга Міколы Іванавіча, што ўбачыла свет ужо пасля смерці славутага гісторыка. У анатацыі да кнігі напісана:

> Гэта — яго кніга жыцця. Мікола Ермаловіч (1921—2000) выдатны беларускі гісторык і пісьменнік, лаўрэат Дзяржаўнай прэміі Рэспублікі Беларусь, вярнуў нам нашу сапраўдную гісторыю, знявечаную, абалганую, адабраную ад нас лжэвучонымі і палітыканамі. Аўтар працаваў над ёй да апошніх дзён, паспеўшы ўнесці ў яе ўсе неабходныя праўкі і дапаўненні...

У гэтай кнізе М. Ермаловіч абагульніў усе свае папярэднія даследаванні ў адным томе. Упершыню беларускі характар і беларуская сутнасць Вялікага Княства Літоўскага была падкрэслена як вызначальны тэзіс, як пастулат. Гэта адлюстравана ўжо ў назве. Упершыню прагучала такая нечаканая і разам з тым праўдзівая фраза: «Беларуская дзяржава Вялікае Княства Літоўскае». І ў кнізе, і ў шэрагу іншых артыкулаў Мікола Іванавіч настойліва праводзіць думку аб старажытнасці Беларускай дзяржаўнасці:

> ...калі дэталёва вывучаць нашу гісторыю... то можна ўпэўніцца, што на тэрыторыі Беларусі ў самай глыбокай старажытнасці пачалі фармавацца дзяржаўныя ўтварэнні — такія, як Полацкае, Тураўскае, а пазней Навагрудскае княствы, з якіх асабліва вызначаецца першае.

Довад аб тым, што Полацкае княства і іншыя княствы на тэрыторыі Беларусі не з'яўляюцца беларускімі, бо тады не было назвы Беларусь, ён лічыць недарэчным:

> Бо ў такіх выпадках, напрыклад, і Маскоўскае княства нельга лічыць рускім, бо яно так не называлася. І сапраўды адзін і той жа народ можа мець на працягу

гісторыі розныя назвы. Тое ж атрымалася і з Беларуссю, якая склалася з тэрыторый ранейшых палітычных аб'яднанняў, што былі тут.

Ермаловіч сцвярджае:

> ...варта раскрыць нашыя летапісы і заходнія хронікі і ўважліва прачытаць адпаведныя месцы, як адразу пераканаемся, што на беларускіх землях у канцы XII — першай палове XIII ст. не панавалі раз'яднанне і міжусобіца. А наадварот, крыніцы сцвярджаюць: паміж беларускімі землямі ў той час пачаўся працэс эканамічнага, палітычнага і культурна-этнічнага іх збліжэння.

Наступны тэзіс — гэта сцвержанне таго, што не Літва заваявала Навагрудак, а Навагрудак, які ў той час быў буйным эканамічным цэнтрам, заваяваў Літву, — а пад Літвой тады разумелася не сучасная Літва, а Беларускае Панямонне. Менавіта адсюль з'явіўся у суседнім Навагарадку князь Міндоўг. Ён быў запрошаны на княжанне і стаў неўзабаве заваёўнікам Літвы, што ўразалася клінам паміж Полацкам, Тураўскай і Навагародскай землямі. Канчаткова Літву заваяваў князь Войшалк — сіламі пінянаў і навагародцаў. Вось такім чынам Беларускае Панямонне стал ядром будучага ВКЛ.



*Вокладка кнігі жыцця Міколы Ермаловіча*

З пераносам сталіцы дзяржавы з Навагрудка ў Вільню беларускі характар гэтай дзяржавы не змяніўся. Новая сталіца, як паказваюць археалагічныя і пісьмовыя крыніцы, была заснаваная крывічамі і таму доўгі час называлася Крывіч-горад ці Крывы горад. Потым Вільня становіцца цэнтрам беларускай культуры. З усяго сказанага становіцца зразумелым, чаму пануючай культурай у Вялікім Княстве Літоўскім стала беларуская культура. Ермаловіч падкрэслівае: праз увесь час існавання Літоўскай дзяржавы ў ёй не было сказана альбо напісана афіцыйна ніводанага літоўскага слова — бо дзяржаўнай мовай з самага пачатку была беларуская мова.

## Нечаканая, але заслужаная слава

І ўсё ж Мікола Ермаловіч — шчаслівы чалавек. Госпад працягнуў да яго руку сваёй ласкі. Яго ідэі, яго тытанічная праца па стварэнню праўдзівай гісторыі Беларусі, па выкрыццю псеўдатэорый савецкай і замежнай гістарычных школ — дала плён. Яго галоўная праца «Па слядах аднаго міфа», хоць і праз 20 год, але ўбачыла свет. І нават была потым два разы перавыдадзена. Яго фундаментальны твор «Старажытная Беларусь» быў высока ацэнены — кніга атрымала Дзяржаўную прэмію Рэспублікі Беларусь (1992) і літаратурную прэмію імя Уладзіміра Караткевіча.

У 90-я гады XX ст. Мікола Ермаловіч дачакаўся прызнання. Ён — адзіны гісторык Беларусі, які, не маючы ніякіх навуковых званняў і вучоных ступеняў, з'яўляецца аўтарам уласнай, ужо многімі айчыннымі і замежнымі вучонымі прызнанай навуковай канцэпцыі ўтварэння Вялікага Княства Літоўскага. Гэтая канцэпцыя адпавядае высновам беларускіх археолагаў. Яна ўключана ў афіцыйныя падручнікі, рэкамендавана Міністэрствам адукацыі Рэспублікі Беларусь для вы-

вучэння па курсу гісторыі Беларусі ва ўсіх навучальных установах.

Ён быў узнагароджаны медалём Францыска Скарыны (1993). За вялікі ўдзел у стварэнні сапраўднай гісторыі Беларусі Камітэтам Ушанавання ганараваны ордэнам «Гонар Айчыны» (25.03.1997) і адпаведным дыпломам. Занесены ў Кнігу гонару «Руплівуцы твае, Беларусь».

Пасля трагічнай смерці Міколы Ермаловіча сябры клуба «Спадчына» ўзялі на сябе абавязак ушанаваць яго памяць. Многае было зроблена: усталяваныя помнікі гісторыку ў музеі ў Старых Дарогах і на яго радзіме — у Маладзечне, выдадзена кніга «Яго чакала Беларусь чатыры стагоддзі», дзе сабраныя ўспаміны сяброў, калег і родзічаў Міколы Іванавіча, а таксама змешчаныя раней нідзе не друкаваныя знакамітыя «Гутаркі».



*Пласт «Мікола Ермаловіч».*
*А. І. Фінскі (2003). Бронза. 34×29 см.*
*Устаноўлены на гранітным помніку ў гонар гісторыкаў Беларусі*

У Старадарожскім мастацкім музеі экспануюцца яго кнігі і прысвечаныя яму творы.

## Заключэнне

Жыццё Міколы Ермаловіча абарвалася на 79-м годзе ягонага пакутнага шляху — у 2000-м. Ён загінуў пад коламі машыны, калі вяртаўся дадому з чарговай сустрэчы з прыхільнікамі яго таленту. Некаторыя аматары «лёгкіх сенсацыяў» лічаць, што гэта быў не няшчасны выпадак, а забойства. Маўляў, КДБ знішчыла

ідэолага беларускіх нацыяналістаў паводле такога ж сцэнару, як раней быў забіты мастак Лявон Баразна і рэпрэсіравана мноства знакамітых людзей Беларусі.

Я так не лічу. Не органы спецслужбаў вінаватыя ў тым, што мы, людзі часта чэрствыя і эгаістычныя. Што мы дбаем перадусім пра сябе, а ў нязручных для нас момантах робім выгляд, быццам чужыя справы нас не датычаць. Я маю на ўвазе тое, што ў той заломлівы вечар Мікола Ермаловіч быў адзін, яго ніхто не суправаджаў. А ён жа амаль што нічога не бачыў, быў амаль сляпы. А сляпыя заўсёды маюць павадыроў.

Чаму ж спадар Мікола астаўся ў адзіноце? Дзе ж тады былі ягоныя прыхільнікі, людзі, якім ён чытаў лекцыю? Я добра ведаю, што такі выпадак, калі М. Ермаловіч ішоў без спадарожніка, далёка не адзіны. Не раз у час розных мітынгаў і шэсцяў, у якіх Мікола Іванавіч заўсёды браў удзел, узнікала сітуацыя знайсці таго, хто б давёў яго на электрычку (у Маладзечанскія часы) ці пасадзіў на аўтобус (калі ён жыў у сваёй аднапакаёўцы ў Малінаўцы).

Мікола Ермаловіч — гонар нашай нацыі, падмурак як тэорыі, так і практыкі беларускага нацыяналізму XX стагоддзя. Я лічу, што мне вельмі пашанцавала быць паплечнікам і суразмоўцам чалавека такога магутнага таленту і бясконцай праўды.

Пакуль «научоныя мужы» спрачаюцца, быў ці не быў Мікола Ермаловіч вучоным-гісторыкам (ён жа не меў навуковых ступеняў!) — гістарычная навука ўпэўнена крочыць поруч з ягонымі гістарычнымі адкрыццямі, а новыя пакаленні маладых людзей з захапленнем чытаюць ягоныя кнігі і адкрываюць сабе нанова міф аб літоўскай заваёве.

# АСНОЎНЫЯ ТВОРЫ М. І. ЕРМАЛОВІЧА

## Машынапісы

**Праўда і хлеб.** П'еса. 1959—1960. 89 с. // БДАМЛМ. Фонд 444, воп. 1, № 102.

**Пад іх сцягам ідзе Беларусь.** 1970 г. 113 с. // БДАМЛМ, Фонд 444, воп. 1, № 20.

**Гутаркі.** Самвыдавецкі лісток. № 1 — 45 (53). 1975—1976. // БДАМЛМ, Фонд 444, воп. 1, № 108.

**Полацкая епархія і яе роля ў пачатковай гісторыі Беларусі.** 1991. // БДАМЛМ, Фонд 444, воп. 1, № 44.

## Друкаваныя

**Где была летописная Литва?** // Тезисы к конференции по археологии Белоруссии. Мн., 1969.

**Дарагое беларусам імя.** Мінск, 1970.

**Па слядах аднаго міфа.** Мн., 1989.

**Старажытная Беларусь: Полацкі і Новагародскі перыяды.** Мінск: «Мастацкая літаратура», 1990. — 366 с.

**Старажытная Беларусь: Віленскі перыяд.** Мінск: «Бацькаўшчына». 1994. — 92 с.

**Беларуская дзяржава Вялікае Княства Літоўскае.** Мінск: «Беллітфонд», 2003. — 436 с.

**Мікола Ермаловіч: Выбранае.** Мінск: «Кнігазбор», 2010. — 640 с.

**Яго чакала Беларусь чатыры стагоддзя** (Зборнік дакументаў і матэрыялаў да 85-годдзя з дня нараджэння Міколы Ермаловіча. Успаміны, творы, фотаматэрыялы). Мінск, 2007. — 360 с.

# ЗМЕСТ




Навукова-папулярнае выданне

**АСТАПЕНКА Анатоль**

**МІКОЛА ЕРМАЛОВІЧ**
**ТОЙ, ХТО ВЯРНУЎ НАМ ГІСТОРЫЮ**

Ответственный за выпуск *Ю. Г. Хацкевич*

Подписано в печать 20.10.2014.
Формат 70 × 90 $^{1}/_{32}$. Бумага офсетная. Печать офсетная.
Усл. печ. л. 2,34. Уч.-изд. л. 2,2. Тираж 1000 экз. Заказ 2987.

ООО «Харвест». Свидетельство о ГРИИРПИ № 1/17 от 16.08.2013.
Ул. Кульман, д. 1, корп. 3, эт. 4, к. 42, 220013, г. Минск, Республика Беларусь.
E-mail редакции: harvest@anitex.by

Республиканское унитарное предприятие «Издательство «Белорусский Дом печати».
Свидетельство о государственной регистрации издателя, изготовителя,
распространителя печатных изданий № 2/102 от 01.04.2014.
Пр. Независимости, 79, 220013, г. Минск, Республика Беларусь.




ISBN 978-985-18-3550-4
9 789851 835504

**Мікола Ермаловіч (1921—2000) адкрыў нам вочы на сапраўдную гісторыю Беларусі. Ён адкінуў ілжывы тэзіс расейскіх і летувіскіх гісторыкаў пра заваяванне жамойтамі беларускіх зямель у XIII ст., даказаў, што беларусы аславяненыя балты, а не збалтызаваныя славяне. Пасля Ермаловіча наша гісторыяграфія зрабілася прынцыпова іншай чым яна была раней.**